ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР




№ 3
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР




САКАВІК
№ 3
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ



**АД ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў)**

**ЦК ВКП(б) з вялікім жалем паведамляе партыю, рабочы клас, усіх працоўных нашай краіны і ўсяго свету, што 25 студзеня 1935 г. у 14 гадз. 30 мін. памёр ад склероза сэрца член палітбюро ЦК ВКП(б), намеснік старшыні Соўнаркома СССР і старшыня Камісіі совецкага кантролю пры Соўнаркоме СССР т. ВАЛЕР'ЯН ВЛАДЗІМІРАВІЧ КУЙБЫШЭЎ.**

*Тав. КУЙБЫШЭЎ памёр на баявым пасту, прадаўжаючы вялікую дзяржаўную і партыйную напружаную работу, аж да апошняга моманту свайго жыцця.*

*Тав. КУЙБЫШЭЎ быў узорам пролетарскага рэволюцыянера, паслядоўнага ленінца, непрымірымага да ворагаў партыі, рабочага класа і самаадданага барацьбіта за справу комунізма.*

*Яго рэволюцыйная дзейнасць пачынаецца ў перыяд першай рускай рэволюцыі. За гады сваёй баявой большэвіцкай работы т. КУЙБЫШЭЎ прайшоў праз царскія турмы і ссылкі як самаадданы баец ленінскай партыі.*

*У гады грамадзянскай вайны т. КУЙБЫШЭЎ з'яўляецца адным з віднейшых палітычных кіраўнікоў Чырвонай арміі.*

*Буйнейшы арганізатар і кіраўнік нашага дзяржаўнага і гаспадарчага будаўніцтва, т. КУЙБЫШЭЎ аддаваў усе свае сілы справе соцыялізма.*

*Бязмежная адданасць партыі, самаахвярная, нястомная работа на карысць працоўных Валер'яна Владзіміравіча КУЙБЫШЭВА будуць служыць прыкладам для мільёнаў пролетарыяў і працоўных у іх вялікай барацьбе за тэржаство комунізма.*

*ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў)*

Наша партыя панесла вялікую страту: 25 студзеня 1935 года раптоўна памёр ад склероза сэрца т. **Валер'ян Владзіміравіч Куйбышэў.**

Валер'ян Владзіміравіч Куйбышэў з юнацкіх год змагаўся пад вялікім сцягам Леніна.

Ён упарта, не пакладаючы рук, працаваў і ў большэвіцкім падполлі, і на франтах грамадзянскай вайны, і на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Ужо ў 1905 годзе т. Куйбышэў у Пецербургу актыўна ўдзельнічае ў рэволюцыі як большэвік. Ён працуе затым у большэвіцкай арганізацыі Сібіры, як партыец-прафесіянал; у перапынках паміж неаднаразовымі ссылкамі і турэмнымі зняволеннямі ён вядзе кіруючую партыйную работу і ў большэвіцкай арганізацыі Піцера.

Лютаўская рэволюцыя застае т. Куйбышэва на дарозе ў чарговую ссылку ў Туруханскі край.

Тав. Куйбышэў—арганізатар большэвікоў Самары і іх кіраўнік у часе Кастрычніцкага перавароту.

Тав. Куйбышэў быў адным з віднейшых палітычных кіраўнікоў Чырвонай арміі ў баях супроць чэхаславакаў і калчакоўцаў, а затым на Туркестанскім фронце.

Нястомны, чоткі ў рабоце, бязмежна адданы справе пролетарскай рэволюцыі—ён з'яўляўся ўзорам выдатнага большэвіцкага дзяржаўнага дзеяча.

Тав. Куйбышэў быў старшынёй рэарганізаванай па ўказаннях Леніна ЦКК—РСІ, вёў паслядоўную, непрымірымую барацьбу з усімі ўхіламі ад генеральнай лініі партыі.

Буйнейшы арганізатар і знаток гаспадаркі нашай краіны, т. Куйбышэў узначальваў у свой час Вышэйшы совет народнай гаспадаркі, кіруючы соцыялістычнай індустрыяй. Тав. Куйбышэў узначальваў затым Дзяржаўную планавую камісію, кіруючы складаннем народна-гаспадарчых планаў 1-й і 2-й пяцігодкі.

Багацейшы вопыт арганізатарскай і гаспадарчай работы т. Куйбышэва, яго шырокі дзяржаўны кругазор асабліва ярка праявіліся на пасту намесніка старшыні Совета народных камісараў СССР.

Тав. Куйбышэў памёр на баявым пасту, працуючы не пакладаючы рук, з усіх сіл, да апошняй мінуты свайго жыцця.

Ён аддаў усё сваё жыццё, усяго сябе—справе рабочага класа, справе нашага гераічнага народу.

Прашчай, наш родны і блізкі Валер'ян!

*І. Сталін*
*В. Молатаў*
*К. Варашылаў*
*Л. Кагановіч*
*М. Калінін*
*Г. Орджанікідзе*
*А. Андрэеў*
*С. Касіор*
*А. Мікаян*
*В. Чубар*
*Г. Петроўскі*
*П. Постышэў*
*Я. Рудзутак*
*А. Жданаў*

# Больш рэволюцыйнай пільнасці!

Судом і следствам па справе кіраўнікоў зіноўеўскай антысовецкай групоўкі ўстаноўлены ва ўсёй іх агіднай нагаце нечуваныя і жудасныя злачынствы зіноўеўцаў. Так званы «маскоўскі цэнтр», куды ўваходзілі Зіноўеў, Еўдакімаў, Гертык, Бакаеў, Куклін, Каменеў, Шараў, Фёдараў і Гаршэнін, аб'яднаў вакол сябе найбольш актыўных членаў зіноўеўскай антысовецкай апазіцыі, не гледзячы на сваю «капітуляцыю» не спыніўшай сваёй падпольнай контррэволюцыйнай работы. Суд устанавіў, што пад кіраўніцтвам так званага «маскоўскага цэнтра» дзейнічала падпольная контррэволюцыйная ленінградская група на чале з «ленінградскім цэнтрам», галоўныя ўдзельнікі якога былі асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Саюза ССР па справе аб забойстве т. **С. М. Кірава.**

Удзельнікі вярхушкі зіноўеўскай антысовецкай апазіцыі («маскоўскі цэнтр») ведалі аб тэрарыстычных настроях ленінградскай групы і самі распальвалі гэтыя настроі. Яны з'явіліся натхніцелямі і выхавальнікамі фашысцкіх забойцаў з «ленінградскага цэнтра».

Ї тых і другіх аб'яднала лютая злоба, ненавісць да партыі, да яе кіраўніцтва, ненавісць да будаўніцтва соцыялізма, якое атрымала такія грандыёзныя перамогі наперакор іх меншавіцкім «тэорыям». Ї тых і другіх аб'яднала даўным-даўно разбітая жыццём, страпаная трацкісцка-зіноўеўская платформа—платформа рэстаўрацыі (аднаўлення) капіталізма ў нашай краіне. Їх аб'яднала таксама адна агульная бяспрынцыпная, чыста кар'ерысцкая мэта—дарвацца да кіруючага палажэння ў партыі і ўрадзе і атрымаць ува што-б та ні стала высокія пасты. Зіноўеўцы дзеля дасягнення сваіх злачынных мэт дакаціліся да антысовецкага індывідуальнага тэрора, да прамых сувязей з замежным консулам, з прадстаўнікамі капіталістычнага акружэння.

Каб вярней схаваць ад партыі свае злачынныя мэты і злачынныя замыслы, каб захаваць парт. білеты, як сродак маскіроўкі, зіноўеўцы зрабілі двурушніцтва сваёй асноўнай запаведдзю.

У гісторыі нашай партыі было не мала фракцый і груповак, розных апазіцый і ўхілаў. Гэтыя фракцыі звычайна проціпастаўлялі свае погляды лініі партыі і дабіваліся таго, каб адкрыта абараняць іх перад партыяй. Гісторыя нашай партыі не ведае ніводнай групоўкі, якая-б ставіла сваёй задачай сістэматычна ўтойваць свае погляды, хаваць свой палітычны твар, больш таго, сістэматычна шэльмаваць і праклінаць свае ўласныя погляды і платформы, каб увайсці ў давер'е да партыі і тым часам рыхтаваць зладзейскія забойствы прадстаўнікоў партыі. Зіноўеўская контррэволюцыйная група ў тым яе выглядзе, як яна раскрылася ў рэзультаце следства і суда,—з'ява зусім новая, небывалая ў гісторыі нашай партыі, у гісторыі рэволюцыйнай барацьбы.

Адзіная гістарычная аналогія, якая прымяніма да паводзін Зіноўева, Каменева і іх супольнікаў,—гэта паводзіны і тактыка правакатараў, якія былі на службе ў царскіх жандармаў, свядома аддаваўшых на смерць і катаванні лепшых барацьбітоў за рэволюцыю. А каб схаваць свае

здрадніцтва, сваю іудзіну работу, пэтыя людзі з дня на дзень прыкідаліся самымі сапраўднымі рэволюцыянерамі. Такім правакатарам быў, напрыклад, Маліноўскі былы член думскай фракцыі большэвікоў у 1913 г.

Пачуццё найвялікшай агіды і амярзення ахоплівае кожнага чэснага партыйца, калі ўспамінаюцца ашукваючыя выступленні Зіноўева і Каменева на XVII з'ездзе партыі, на з'ездзе пераможцаў. Выступаючы на з'ездзе з крывадушнымі клятвамі адданасці партыі, яны адначасова прадаўжалі весці контррэволюцыйную работу. «На гэтым з'ездзе,—заявіў падсудны Еўдакімаў у зале Вярхоўнага суда СССР,—і Зіноўеў і Каменеў ашукалі партыю, гэтым выступленнем яны падкрэслілі сваім аднадумцам законнасць ашукання партыі. Я таксама вінават і ў гэтым, бо быў на з'ездзе ў якасці госця і ніхто не перашкаджаў мне выступіць з выкрыццём нашай контррэволюцыйнай дзейнасці».

**Двурушніцтва** было асноўнай запаведдзю контррэволюцыйнай банды зіноўеўцаў, было асноўным метадам іх зносін з партыяй. Прыбягаць да двурушніцтва зіноўеўская апазіцыя пачала яшчэ ў перыяд сваёй першай атакі на партыю, у перыяд падрыхтоўкі XIV з'езда партыі. Задумаўшы выступленне супроць партыі на XIV з'ездзе, зіноўеўцы вялі разлагаючую фракцыйную работу ў ленінградскай партыйнай арганізацыі. Але гэтая фракцыйная работа, злобная і паклёпніцкая агітацыя супроць ЦК (размовы наконт «тэрмідора», перараджэнне старых партыйных кадраў і т. д.) прыкрываліся час ад часу ілжывымі, фармальнымі заявамі аб сваёй адданасці Цэнтральнаму камітэту. Толькі пры дапамозе гэтых метадаў ашукання і двурушніцтва зіноўеўскай апазіцыі ўдалося атрымаць большасць на ленінградскай абласной партканферэнцыі напярэдадні XIV з'езда і працягнуць свой фракцыйны састаў дэлегацыі на з'езд. Дэлегацыя на XIV з'езд падбіралася цалкам па фракцыйнаму прызнаку, з яе адводзіліся ўсе прыхільнікі ЦК. На з'ездзе была цалкам выкрыта гэтая фракцыйная антыпартыйная работа зіноўеўскай апазіцыі. Высветлілася, у прыватнасці, што ўжо тады, напярэдадні XIV з'езда, зіноўеўскаму актыву ў Ленінградзе даваліся «дырэктывы» яўна двурушніцкага характару:

«Мы павінны весці асцярожна такую падрыхтоўчую работу да раённых і губернскіх канферэнцый і да XIV з'езда, каб свой пункт гледжання перад усёй партыяй і ЦК заявіць: **у чвэрць голаса—на раённых канферэнцыях, у поўголаса—на губернскай партканферэнцыі і поўным голасам павінна будзе заявіць гэты пункт гледжання наша дэлегацыя на XIV партз'ездзе»**. (Стэнаграфічны адчот XIV з'езду, стар. 202.)

У далейшым двурушніцтва, здрада, прэдацельства, ашуканства партыі сталі своеасаблівым сімвалам веры зіноўеўцаў, з'явіліся важнейшай асаблівасцю іх вераломнай барацьбы з партыяй і совецкай уладай. «Мы так прызвычаіліся ілгаць партыі, што адвучыліся адрозніваць праўду ад ілжы»,—заявіў Еўдакімаў. Зіноўеўская фракцыйная група, цяпер разгромленая да канца, **была самай здрадніцкай і самай прэзрэннай з усіх фракцыйных груп у гісторыі нашай партыі. Па сутнасці яна была замаскаванай формай белагвардзейскай арганізацыі,** цалкам заслугоўваючай, каб з яе членамі абыходзіліся як з белагвардзейцамі. Не выпадкова, што іменна ў асяроддзі зіноўеўскай антысовецкай групы, у асяроддзі напоўненым непраходнай агіднай злобай да партыі, выраслі такія закончаныя белагвардзейскія тыпы, як Нікалаеў, Румянцэў. Не выпадкова таксама, што Зіноўеў падбіраў сабе такіх агідных людзей, як Румянцэў, яшчэ ў перыяд 1921 г., свядома дапамагаўшы пралезці ў партыю свайму брату—белагвардзейцу, які расстрэльваў комуністаў пры Юдзенічы.

Яшчэ ў Кастрычніцкія дні 1917 г. Ленін пісаў аб «бязмернай подласці», «сапраўдным здрадніцтве» Зіноўева і Каменева. Ленін падкрэсліваў, **што**

штрэйкбрэхерства, дэзертырства і здрадніцкія паводзіны Каменева і Зіноўева, якія прэдавалі партыю і Леніна ў Кастрычніцкія дні 1917 г., былі не выпадковымі. Зіноўеў і Каменеў здраджвалі партыі ў дні, калі вырашаліся судзьбы соцыялістычнай рэволюцыі, калі партыя вяла масы на Кастрычніцкі штурм. Гэтыя людзі канчаткова скаціліся ў балота контррэволюцыі, зыйшліся з белагвардзейскай зграяй у дні, калі соцыялізм перамог у нашай краіне. Яны назаўсёды будуць прыгвожджаны да ганебнага слупа гісторыі. Іх агідныя імёны выклікаюць і будуць выклікаць у будучых пакаленняў такую-ж агіду, як імёны Маліноўскага і іншых здраднікаў і ворагаў рэволюцыі.

* * *

Члены зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы змагаліся супроць партыі і совецкай улады, супроць соцыялістычнага будаўніцтва, супроць індустрыялізацыі і калектывізацыі. Яны «думалі, што партыя сустрэнецца з неперможнымі перашкодамі ў калектывізацыі, і загадзя радаваліся будучым няўдачам». Яны не сароміліся гэтыя «няўдачы» літаральна высасваць з пальца. На ўсю грандыёзную будаўнічую работу, якая адбывалася ў нашай краіне, яны глядзелі вачыма фашыстаў і белагвардзейцаў. «Суд бачыць,— прызнаў падсудны Еўдакімаў,—што мы нічым не адрозніваліся ад міжнароднай контррэволюцыйнай сволачы. Мы зусім таксама, як гэтая сволач, чакалі краху, мы жылі надзеямі на гэты крах».

Але ўдзельнікі зіноўеўскай антысовецкай групы не толькі «чакалі краху». Яны актыўна дапамагалі ворагам нашай вялікай радзімы рыхтаваць інтэрвенцыю, рыхтаваць вайну супроць СССР. Аслепленыя злабой і ненавісцю да партыі, да совецкай улады, згубіўшы надзею на «крах», таму што кожны дзень прыносіў і прыносіць усё новыя і новыя яркія доказы рашучай і беспаваротнай перамогі соцыялізма ў нашай краіне, контррэволюцыйныя зіноўеўскія гады пашлі на сувязь з міжнароднай контррэволюцыяй.

На XVII з'ездзе партыі, заклікаючы да пільнасці, таварыш **Сталін** падкрэсліваў, што «... ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей у СССР і супроць якога мы, бальшэвікі,—павінны ўвесь час трымаць порах сухім ...»

Іменна таму, што нашы поспехі вялікія, што магутнасць Совецкай дзяржавы ўсё больш узрастае, класавы вораг, яго разгромленыя рэшткі прыбягаюць і будуць прыбягаць да самых адчаяных, самых вострых, самых подлых сродкаў барацьбы. Толькі людзі, якія маюць адрыжку праваапартуністычнай ідэалогіі «мірнага ўрастання кулака ў соцыялізм», могуць думаць, што па меры нашага прасоўвання да поўнага соцыялістычнага грамадства ворагі пролетарыята будуць станавіцца «ручнымі» і «бяскрыўднымі».

І зараз трэба зноў напомніць прароцкія словы таварыша **Сталіна**, сказаныя ім у дакладзе аб ітогах першай пяцігодкі:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці Совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелююча да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якога-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не спрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэво-

люцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, вядома, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асобых ахвяр.

**Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам»** (падкрэслена намі—Рэд.).

Гэтыя празорлівыя ўказанні правадыра партыі былі недастаткова цвёрда засвоены ў ленінградскай партыйнай арганізацыі. Частка работнікаў, у тым ліку работнікі тых органаў пролетарскай дыктатуры, якія павінны быць асоба пільнымі, аказалася заражанымі апартуністычным благадушшам. Гэта палегчыла магчымасць подлым фашысцкім забойцам з «ленінградскага цэнтра» зрабіць свой гнусны ўчынак.

У прыгаворы Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда Саюза ССР па справе былых супрацоўнікаў упраўлення НКВД па ленінградскай вобласці ўказваецца, што рад былых супрацоўнікаў, асабліва Бальцэвіч, які меў па сваёй пасадзе непасрэдныя адносіны да спраў аб тэроры, «распалагаючы звесткамі аб рыхтуючымся замаху на т. **С. М. Кірава**, праявілі не толькі няўважлівыя адносіны, але і злачынную нядбайнасць да асноўных запатрабаванняў аховы дзяржаўнай безапаснасці, не прыняўшы неабходных мер аховы». Суровае і заслужанае пакаранне, якое панесена імі, паслужыць сур'ёзным урокам і папярэджаннем для тых работнікаў, якія схільны да апартуністычнага благадушша.

**Яшчэ больш умацаваць магутнасць пролетарскай дыктатуры, яшчэ больш падняць і завастрыць пільнасць кожнага члена партыі!** Помніць, што расхлябанасць, разгільдзяйства, бесклапотнасць і сляпое давер'е да неправераных людзей палягчаюць подлую работу ворага. Не можа быць ніякай літасці **двурушнікам**, якія павінны не толькі выганяцца з радоў партыі, але і абясшкоджвацца.

Няўтомнае **ідэйнае ўзбраенне** і ў першую чаргу сур'ёзнае, уважлівае вывучэнне гісторыі нашай партыі, вывучэнне таго, у барацьбе з якімі ворагамі партыя забяспечыла перамогу дыктатуры пролетарыята, перамогу соцыялізма ў нашай краіне,—важнейшы сродак павышэння пільнасці партыйцаў. Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі ВКП(б).

Трэба ведаць тактыку ворагаў партыі, ведаць, як партыя выкрыла ў вачах працоўных і разграміла кадэтаў, эсэраў, меншавікоў. Яшчэ больш важна ведаць, як партыя разграміла меншавіцка-анархісцкую «рабочую апазіцыю», трацкізм, зіноўеўска-трацкісцкую апазіцыю, правых апартуністаў, права-левацкіх уродаў. У барацьбе з усімі варожымі большэвізму партыямі, плынямі і групамі партыя **Леніна—Сталіна** вырасла ў магутную непераможную сілу, арганізавала рашучую і беспаваротную перамогу соцыялізма ў нашай краіне, стварыла несакрушальную базу сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Ворагам не ўдасца спыніць далейшага пераможнага шэсця соцыялізма.

Няхай злуюць і шалеюць ворагі, абаронцы белагвардзейцаў і подлыя паклёпнікі на Савецкі саюз, накшталт французскіх профбюракратаў. Ім не ўдасца пахіснуць пачуццё найвялікшай любові і давер'я, якімі поўны працоўныя ўсяго свету да СССР, да комуністычнай партыі, да імёнаў **Леніна і Сталіна**.

Вялікі непераможны сцяг **Маркса і Энгельса, Леніна і Сталіна** забяспечыць перамогу сусветнай пролетарскай рэволюцыі, таржаство комунізма ва ўсім свеце.

„Большевик" № 1, 1935 г.

*І. Фрэйдман*

# Аб арганізацыі і правядзенні ўрока

Рэалізацыя гістарычных рашэнняў партыі і ўрада аб школе вырашаецца перш за ўсё падняццем якасці вучэбна-выхаваўчай работы школы. Адным з асноўных момантаў у справе падняцця якасці вучэбна-выхаваўчай работы настаўніка з'яўляецца аўладанне тэхнікай педагагічнага працэса.

Гэта асабліва важна зараз, калі наша школа прыняла да сябе тысячы маладых педагогаў, энтузіястаў педагагічнай справы. Гэты наш педагагічны маладняк упарта працуе над тым, каб падняць нашу школу на ўзровень задач другой пяцігодкі. Але гэтая педагагічная моладзь сустракае рад цяжкасцей у сваёй рабоце, асабліва ў галіне тэхнікі педпрацэса. Часопіс «Камвыхаванне» ставіць сваёй задачай дапамагчы нашаму педагагічнаму маладняку ў гэтай справе. Мы пачынаем гэтую работу з высвятлення пытання аб тым, як арганізоўваць і праводзіць урок у сярэдняй школе.

Пастанова ЦК ад 25 жніўня 1932 г. аб рэжыме і навучальных праграмах пачатковай і сярэдняй школы адзначае:

«Асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў пачатковай і сярэдняй школе павінен з'явіцца ўрок з данай групай вучняў з строга размеркаваным раскладам заняткаў і цвёрдым саставам вучняў. Гэтая форма павінна ўключыць у сябе пад кіраўніцтвам настаўніка агульна-групавую, брыгадную і індывідуальную работу кожнага вучня з прымяненнем рознастайных метадаў навучання. Пры гэтым павінны быць усяк развіваемы калектыўныя формы навучальнай работы, не практыкуючы арганізацыі пастаянных абавязковых брыгад».

Гэтае ўказанне ЦК ВКП(б) аб уроках уздымае праблему ўрока на новую прынцыповую вышыню і накіравана як супроць права-апартуністычных, так і лявацкіх элементаў у педагогіцы.

Правыя апартуністы ў педагогіцы механічна пераносяць методыку правядзення ўрока буржуазнай школы ў совецкую школу, не бачаць прынцыпова іншага зместу школьнай работы нашай совецкай школы. Правыя недаацэньваюць актыўнасць вучняў у справе барацьбы за высокую якасць вучобы і калектыўныя формы навучальнай работы; яны адрываюць выхаванне ад навучання на ўроку, абмяжоўваючы ўрок толькі набыццём пэўнай сумы фармальных ведаў і навыкаў, іх механічным засваеннем, фактычна, шляхам зуброжкі. Гэтым самым правыя апартуністы вядуць да рэстаўрацыі старой схаластычнай школы—школы муштры і зуброжкі, супроць якой наша партыя пад кіраўніцтвам тт. Леніна і Сталіна вяла і вядзе самую рашучую барацьбу. Гэтым самым правыя апартуністы выражаюць чаянні класавых ворагаў і ўзмацняюць іх у барацьбе з нашай совецкай школай.

Левыя апартуністы ў педагогіцы адмаўляюць урок наогул як самую дрэнную спадчыну старой школы. Левакі адмаўляюць кіруючую ролю настаўніка ў педагагічным працэсе; яны пакідаюць настаўніку толькі функцыю кансультанта, даведчыка, хадзячай энцыклапедыі. Левакі лічаць цвёрды расклад і цвёрды склад класа вучняў прадрассудкам, захаваўшымся ад старой школы. Выхваляючы вольны расклад, пераходзячыя брыгады, левакі разбуралі клас, як вучэбную адзінку. Проціпастаўляючы калектыўную работу індывідуальнай, левакі знішчалі ўсякія элементы індывідуальнай работы вучняў, яны ігнаравалі ўзросныя і індывідуальныя асаблівасці іх і тым самым затрымлівалі іх развіццё, заглушалі ініцыятыву і здольнасці. Скажаючы марксісцка-ленінскую тэорыю аб адукацыі, левакі рабілі стаўку, галоўным чынам, на ўласны вопыт, недаацэньвалі справу аўладання асновамі навук; левакі насаджвалі дылетанства, верхаглядства, вялі да стыхійнасці ў справе навучання, і тым самым да ўзмацнення класава-варожага ўплыву на дзяцей, да «прышчаплення дзецям савецкай школы элементаў антыпралетарскай ідэалогіі».

Гэты лявацкі брэд выцякае з іх антыленінскай тэорыі адмірання школы, якая накіравана на разбурэнне савецкай школы—важнейшага і асноўнага звяна ў сістэме комвыхавання і адукацыі падрастаючага пакалення СССР.

Рэалізацыя партыйных дырэктыў аб школе, у тым ліку і аб уроку, патрабуе самай рашучай і няўхільнай барацьбы на два фронты.

Але побач з выкрыццём усёй шкоднасці, бессэнсоўнасці і навуковай нявытрыманасці права-лявацкіх разважанняў аб уроках, мы павінны ўзброіць савецкага настаўніка тэхнікай і методыкай правядзення і арганізацыі ўрока. Трэба паказаць яму шлях правядзення высокаякаснага ўрока, забеспячэнне ідэйнай насычанасцю, навуковай вытрыманасцю і прочнасцю засваення вучнямі асноў навук, і тым самым дапамагчы яму ў яго вялікай, адказнай і пачэснай рабоце па адукацыі і выхаванню падрастаючага пакалення СССР.

Мы высветлілі ў чым сутнасць права-лявацкіх скажэнняў аб уроку. Зараз нам неабходна высветліць, якім запатрабаванням павінен адпавядаць урок у савецкай школе. Гэтыя запатрабаванні наступныя:

1. Метадалагічная і навуковая вытрыманасць зместу ўрока. Даступнасць гэтага зместу вучням пэўнага ўзросту. Папулярнасць ізлажэння, але ні ў якім разе не за кошт спрашчэнства і вульгарызатарства.

2. Чоткасць і гібкасць у планаванні часу і матэрыялу ўрока. Высокая арганізаванасць і дысцыплінаванасць як самога настаўніка, так і вучня. Прадуманасць кожнага этапа ўрока. Ні адной мінуты непрадукцыйнай работы. Рацыянальнае выкарыстанне ўсіх 45 мін. урока.

3. Прочнае засваенне дакладна акрэсленага круга сістэматызаваных ведаў і навыкаў. Эфектыўнасць засваення. Выхаваўчая работа на ўроку. Высокая культурнасць у рабоце настаўніка і вучня.

4. Рацыянальнае выкарыстанне рознастайных метадаў і метадычных прыёмаў, забяспечваючых актыўную работу вучняў у справе ўспрыймання і засваення вучэбнага матэрыялу. Патрэбныя навыкі самастойнай работы з падручнікам і дыдактычным матэрыялам і «ўсяк развіваемыя калектыўныя формы навучальнай работы, не практыкуючы арганізацыі пастаянных абавязковых брыгад».

5. Цэласнасць і закончанасць урока, яснасць, паслядоўнасць, красачнасць, канкрэтнасць і нагляднасць у ізлажэнні вучэбнага матэрыялу. Цвёрды і пастаянны ўчот паспяховасці, развіцця і інтарэсаў вучняў.

Вось тыя асноўныя запатрабаванні, якім павінен адпавядаць урок у савецкай школе.

Пасля таго, як мы азнаёміліся ў чым сутнасць права і лева-апартуні-

стычных скажэнняў аб уроку і якім запатрабаванням павінен адпавядаць урок у савецкай школе, мы лічым неабходным звярнуць увагу настаўніка на пытанне аб тэхніцы правядзення ўрока. Педагог, не ўзброены ведамі вучэбнага працэса і тэхнікі правядзення ўрока,—гэта не педагог, а саматужнік. Якасць работы ў такога педагога будзе, безумоўна, нізкай, цяжкасцей у рабоце будзе шмат, паспяхова выканаць тыя задачы, якія партыя і наш урад перад ім паставілі, ён не здолее. Таму зусім яскрава, што адным з асноўных абавязкаў савецкага настаўніка з'яўляецца добрае аўладанне тэхнікай педагагічнага працэса, імкненне стаць сапраўдным майстрам сваёй справы.

Што-ж патрэбна педагогу, каб стаць сапраўдным майстрам сваёй справы? Для гэтага патрэбна:

1. Добра аўладаць сваім прадметам, або тым цыклам прадметаў, якія настаўнік выкладае.

2. Добра ведаць методыку свайго прадмета, г. зн. ведаць тыя прыёмы, спосабы і вучэбны матэрыял, якімі неабходна карыстацца пры выкладанні гэтага прадмета. Настаўнік павінен ведаць, што кожны вучэбны прадмет мае свае спецыфічныя асаблівасці, а значыць і сваю методыку і таму, калі настаўнік выкладае некалькі прадметаў, ён павінен вывучыць методыку кожнага з іх.

3. Грунтоўна аўладаць тэхнікай правядзення ўрока—гэта значыць добра ведаць дыдактычныя правілы правядзення ўрока і ўмела прымяняць іх у практычнай рабоце.

Мы не маем магчымасці зараз досыць падрабязна ізлажыць усе дыдактычныя правілы правядзення ўрока. Мы застановімся толькі на асноўных правілах і мы глыбока ўпэўнены, што калі настаўнік выкарыстае нават гэтыя дыдактычныя правілы, аб якіх мы паказваем ніжэй, якасць і эфектыўнасць яго работы ўздымецца на значна больш высокую ступень.

Асноўнымі дыдактычнымі правіламі правядзення ўрока мы лічым наступныя:

1. Урок павінен пачынацца роўна па званку. Вучні павінны быць цалкам да яго падрыхтаваны, спакойна седзячы на партах павінны чакаць настаўніка і пачатку заняткаў. Настаўнік ні ў якім разе не павінен пазніцца, ён павінен быць у поўнай гатоўнасці за 5 мінут да пачатку заняткаў. Пры ўваходзе настаўніка вучні разам дружна ўстаюць. Настаўнік вітаецца з вучнямі, і вучні дружна вітаюць настаўніка. Урок пачынаецца перш за ўсё з праверкі яўкі вучняў (настаўнік зварочвае асаблівую ўвагу на нез'явіўшыхся вучняў). Калі вучань не прышоў у школу на працягу аднаго дня, настаўнік абавязкова высвятляе прычыны няяўкі гэтага вучня зараз-жа пасля ўрока.

Спазніўшыяся на ўрок у клас не ўваходзяць. Яны допускаюцца на наступны ўрок толькі з дазволу класнага настаўніка.

Лепш калі настаўнік вядзе свой урок стоячы. Гэта дае яму магчымасць добра бачыць перад сабой увесь клас. Пры гэтым ён лепш назірае за работай і паводзінамі кожнага з вучняў паасобку. Нарэшце такое становішча настаўніка садзейнічае ўзмацненню ўвагі дзяцей. Але зусім не абавязкова, каб настаўнік стаяў увесь час урока каля дошкі, або каля стала, не рухаючыся з месца. Настаўнік павінен у час урока падыходзіць да вучняў, наглядаць як яны працуюць, у якім становішчы ў іх сшыткі і падручнікі, аказаць нахаду патрэбную дапамогу найбольш слабым вучням і т. д.

Некаторыя настаўнікі любяць хадзіць па класу ў час урока. Трэба адзначыць, што такое бессэнсоўнае хаджэнне ўзад і ўперад з'яўляецца зусім немэтазгоднай, нават шкоднай справай, бо пры такім становішчы настаўнік не толькі не заўважае вучняў наогул, але нават не заўважае тых

вучняў, якія чамусьці перасталі займацца справай. Нарэшце, самыя рухі настаўніка аслабляюць увагу вучняў. Уваходзячы ў клас, настаўнік не толькі звяртае ўвагу на адсутнасць вучняў, але павінен адразу заўважыць, чым займаюцца прысутныя вучні. Усе непатрэбныя рэчы: кніжкі, сшыткі і т. д., якія ляжаць на партах без патрэбы, настаўнік прапануе зараз-жа ўбраць. Нішто не павінна адцягваць увагу вучняў у час урока. Настаўнік рашуча забараняе вучням займацца невучэбнымі справамі і не дапускае ніякага беспарадку ў класе, лішніх рухаў вучняў, шопату, перакідвання паперкамі і т. д. Вучні, парушаючыя парадак, не гледзячы на неаднаразовыя заўвагі настаўніка і іншыя педагагічныя меры ўздзейнічання, высылаюцца з класа на час гэтага ўрока.

2. Пасля таго як настаўнік праверыў ці ўсе вучні з'явіліся на заняткі і ў класе ўстаноўлен пэўны парадак, створана неабходная рабочая абстаноўка, настаўнік, не спяшаючыся, ясна і выразна растлумачвае вучням, чым ён будзе займацца на даным уроку. Немэтазгодна, як правіла, пачынаць урок адразу з растлумачэння новага матэрыялу. Перш, чым прыступіць да новага матэрыялу, трэба высветліць, наколькі вучні засвоілі папярэдні матэрыял і як вучнямі выкананы хатнія работы. Для гэтага настаўнік выклікае 2—3 вучняў, ставіць ім рад пытанняў з раней прапрацаванага матэрыялу, выбарачна разбірае на ўроку 2—3 сшыткі вучняў. У гэты час вучні таксама ўважліва праглядаюць свае хатнія работы. Калі прагледжаныя работы аказаліся добрымі, настаўнік запытвае, ці ва ўсіх вучняў атрымаліся аднолькавыя рэзультаты работы. Калі ў рабоце вучня ёсць тыя або іншыя памылкі, настаўнік выклікае вучня да дошкі, або прапануе вучню на месцы зноў выканаць тую ці іншую частку работы, паказваючы вучню ў чым сутнасць яго памылкі. Калі аднолькавыя памылкі былі і ў іншых вучняў, яны тут-жа выпраўляюць іх пад кіраўніцтвам настаўніка. Настаўнік высвятляе, якія цяжкасці сустракаліся ў час выканання хатніх работ і т. д. Але шмат затрымлівацца на праверцы засваення мінулага і хатніх работ нельга, бо ў гэтым выпадку будзе скарочан час для вывучэння новага матэрыялу. У тых выпадках, калі праверка засваення мінулага паказвае, што большасцю вучняў матэрыял не засвоен, або засвоен не ў дастатковай ступені, ні ў якім разе нельга пераходзіць да новага матэрыялу. Неабходна зноў звярнуцца да гэтага матэрыялу, кароценька паўтарыць даныя раней тлумачэнні, высветліць наколькі вучні зразумелі тлумачэнні настаўніка, выклікаць 5—6 вучняў для практыкавання, зноў вызначыць адпаведныя хатнія заданні, але ўжо больш складанага характару, каб упаўне ўпэўніцца ў тым, што вучні даны матэрыял засвоілі. Настаўнік павінен памятаць, што да прапрацоўкі новага матэрыялу ён прыступае толькі тады, калі зусім упэўніўся, што вучні мінулы матэрыял добра засвоілі.

Звычайна ўрок падзяляецца на 4 часткі: 1) праверка мінулага і хатніх заданняў—7—10 мін., 2) прапрацоўка новага вучэбнага матэрыялу—30—35 мін., 3) замацаванне новага вучэбнага матэрыялу—замацаванне новых ведаў і навыкаў 8—10 мін., 4) заданне надом 5—7 мін.

Зусім ясна, што не ўсякі ўрок трэба абавязкова будаваць па гэтай схеме. У тых выпадках, калі настаўнік у часе замацавання новага матэрыялу ўпэўніўся, што ўсе вучні яго зразумелі, няма неабходнасці ў пачатку наступнага ўрока зноў правяраць ступень засваення гэтага матэрыялу. Дастаткова праверыць выкананне хатніх заданняў і прыступіць да новага матэрыялу. У гэтым выпадку час на асвятленне новага матэрыялу і яго замацаванне будзе некалькі большы.

Таксама і ў тым выпадку, калі па плану настаўніка вучні не атрымоўваюць хатніх заданняў, час праверкі засваення мінулага або час ізлажэння новага матэрыялу будзе некалькі большым. Пры гэтым трэба заўсёды

памятаць, што дазіроўка часу таксама ў значнай меры залежыць ад выкладаемага прадмета і ўзросту дзяцей.

3. Праверка засваення мінулага ўтвараецца настаўнікам рознастайнымі шляхамі. У адных выпадках шляхам кароткіх, чоткіх пытанняў вучням, у другіх выпадках настаўнік прапануе вучню звязна расказаць аб прапрацаваным матэрыяле і інш. Форма праверкі ступені засваення вучнямі папярэдняга матэрыялу залежыць ад характару вывучаемага прадмета, узросту, развіцця вучняў і часу, якім распалагае настаўнік.

Пытанне настаўніка павінна быць пастаўлена ў пачатку ўсяму класу. Вучням трэба даць некалькі падумаць над пытаннем, потым неабходна гэтае пытанне ставіць аднаму з вучняў (настаўнік павінен абавязкова ведаць сваіх вучняў па прозвішчу, а не тыкаць пальцамі).

Пытанні настаўніка павінны адрозніваццa чоткасцю, яснасцю, правільнасцю выражэння з пункту гледжання мовы; яны павінны быць кароткімі па форме, не двухсэнсоўнымі, тым больш не казуістычнымі. Яны павінны прымусіць падумаць вучня над адказам. Пытанне не павінна быць падказваючым. Напрыклад, скажы, што ты ведаеш аб хлоры (пытанне па зместу надта абшырнае, так ставіць пытанне нельга), або—раскажы, што такое калонія, якія калоніі мае Велікабрытанія і дай характарыстыку гэтых калоній (гэтае пытанне надта шырокае як па зместу, так і па форме)? Тут фактычна тры пытанні і невядома якую характарыстыку патрабуе настаўнік, ці характарыстыку геаграфічнага становішча, ці характарыстыку гістарычнага развіцця, ці характарыстыку эканамічнага становішча. Прывядзем для прыкладу яшчэ адно пытанне: ці з'яўляецца Горкі пролетарскім пісьменнікам (пытанне яўна падказваючага характару)?

Бываюць іншы раз у настаўніка пытанні навадзячага характару; злоўжываць імі не трэба. Навадзячыя пытанні выклікаюцца звычайна нячоткасцю фармулёўкі настаўнікам асноўнага пытання.

Настаўніку лепш звярнуць асаблівую ўвагу на правільнасць фармулёўкі пытання, на моцнае засваенне вучнямі вучэбнага матэрыялу. Тады будуць менш патрэбны ўсякія навадзячыя пытанні. Разам з тым трэба ўлічваць тое, што ў малодшых класах, дзе ў дзяцей яшчэ мова не развіта, правільна пастаўленыя навадзячыя пытанні будуць мець нават дадатнае значэнне, бо яны дапамогуць настаўніку высветліць ступень зразумеласці вучнямі таго або іншага пытання.

Настаўнік павінен патрабаваць ад вучняў таксама ясных, поўных і правільных адказаў як па зместу, так і па форме, звярнуўшы асаблівую ўвагу на правільнасць і культурнасць мовы вучня.

Настаўнік павінен умець заўважаць малейшую недакладнасць у адказах вучняў і павінен абавязкова выпраўляць іх. Для гэтага настаўнік пасля адказу вучня звяртаецца да другіх вучняў і прапануе паправіць гэтага вучня, калі ў яго адказе ёсць тыя або іншыя няяснасці або недакладнасці. У тых выпадках, калі вучні не вычарпалі цалкам пытання, настаўнік павінен сам даць поўны адказ і прапанаваць аднаму з вучняў паўтарыць гэты адказ. Гэта неабходна, асабліва ў малодшых класах.

Але бываюць такія настаўнікі, якія спяшаць адразу-ж паправіць вучня пры першай яго замінцы, падказваюць яму, дапамагаюць пры першым яго затрудненні. Такая ўслужлівасць шкодна, бо яна не прывучае вучня думаць над пытаннем, а астатніх вучняў не прымушае ўважліва сачыць за адказамі таварышоў.

4. Калі настаўнік выклікае для адказу на тое або іншае пытанне вучня, ён ніколі не павінен забываць аб астатніх вучнях данага класа. Нельга аднаго і таго-ж вучня трымаць доўгі час, прыкладна 15—20 мін., а ў малодшых класах нават 10. Калі пытанне патрабуе досыць вялікага часу для

адказу, лепш разбіць гэта пытанне на рад паслядоўных пытанняў і гэтым самым уцягнуць у актыўную работу і другіх вучняў. Наогул настаўнік павінен імкнуцца, каб у час урока ўсе вучні былі заняты работай. Вучні не занятыя работай звычайна перашкаджаюць вядзенню ўрока. Настаўнік павінен рашуча забараняць адказы хорам, асабліва ў старэйшых класах. На пастаўленае пытанне павінен адказваць выкліканы вучань. Харавыя адказы зусім не доказ, што ўвесь клас ведае даныя пытанні. Пры харавых адказах некаторая частка дзяцей, асабліва слабейшых, адказвае часта машынальна, не ўдумваючыся ў змест адказу. Некаторая частка зусім маўчыць; яны спакойны—за іх адказаў увесь клас. У малодшых класах харавыя адказы могуць іншы раз ужывацца, як сродак ажыўлення заняткаў.

Таксама настаўнік павінен сістэматычна змагацца з падказамі. Падказаны адказ амаль нічога не дае вучню, а часта, наадварот, толькі блытае яго. Па-другое, вучань, які прывык да падказвання, звычайна, сам мала працуе, а таму паспяховасць яго ў большасці выпадкаў нізкая. Такім чынам, падказванне прыносіць вучням вялікую шкоду і яно павінна быць цалкам выгнана з савецкай школы.

Ставячы пытанне ўсяму класу, настаўнік павінен прывучыць вучняў не адказваць адразу, а раней прадумаць свой адказ; прадуманы адказ будзе заўсёды больш поўны і правільны.

Калі пытанне вучнямі асмыслена і прадумана, яно ставіцца пэўнаму вучню, якога выклікае настаўнік па прозвішчу. Настаўнік павінен, як правіла, выклікаць усіх вучняў не абмяжоўваючыся выклікам лепшых або слабейшых вучняў. Настаўнік рашуча забараняе ўсякія падказванні і патрабуе ад вучняў самастойнага адказу. Настаўнік павінен заўсёды напамінаць вучням аб шкоднасці падказвання. У правілах унутранага распарадку павінна быць таксама ўказана на недапушчальнасць падказванняў у часе ўроку. Загвуч, дырэктар школы, класныя кіраўнікі сочаць за тым, каб барацьба з падказамі праводзілася ўсімі настаўнікамі.

Пры адказах вучні абавязкова ўстаюць. Гэта мае вялікае значэнне з псіхалагічнага і фізіялагічнага пункту гледжання.

5. Прапрацоўка новага матэрыялу праводзіцца галоўным чынам праз растлумачэнне яго настаўнікам. Прыступаючы да растлумачэння новага матэрыялу, настаўнік або сам або праз вучняў аднаўляе ў памяці вучняў раней прапрацаваны матэрыял, напамінае аб асноўных вывадах, якія ўжо вучню вядомы і паказвае якая асноўная задача ўстае зараз пры пераходзе да новага матэрыялу. Такая сувязь паміж раней прапрацаваным матэрыялам і новым матэрыялам забяспечвае найбольшую яснасць і паслядоўнасць у прапрацоўцы матэрыялу.

У малодшых класах тлумачэнні настаўніка не павінны быць доўгімі. Доўгае тлумачэнне стамляе вучняў. Лепш, калі настаўнік разбівае свае тлумачэнні на некалькі арганічна звязаных паміж сабой частак. Растлумачыўшы тую або іншую частку вучэбнага матэрыялу, настаўнік высвятляе наколькі вучні яго засвоілі. Шляхам чотка пастаўленых пытанняў падводзіць вучняў да пэўнага вываду, да пэўнай фармулёўкі, патрабуе ад 1—2 вучняў паўтарыць зробленую фармулёўку або вывад. Потым пад дыктоўку настаўніка вучні запісваюць тэкст вываду або фармулёўкі. Гэта асабліва патрэбна ў малодшых класах. Растлумачыўшы пэўную частку вучэбнага матэрыялу, настаўнік пераходзіць да далейшага тлумачэння. Для старшых класаў сярэдняй школы такая разбіўка тлумачэння настаўніка на часткі не абавязкова, але і тут патрабуецца, каб пасля тлумачэння настаўніка вучні добра зразумелі і паўтарылі асноўныя вывады і фармулёўкі настаўніка.

Мы ўжо казалі аб тым, што мова настаўніка павінна адрознівацца яснасцю і чоткасцю. Настаўнік пры ўжыванні новых слоў або тэрмінаў,

невядомых вучням, абавязкова растлумачвае іх сэнс. Калі настаўнік пры тлумачэнні новага матэрыялу або пры паўтарэнні папярэдняга матэрыялу робіць тыя ці іншыя запісы, чарцяжы, схемы, дыяграмы і т. д., вучні гэтыя запісы, чарцяжы заносяць у свае сшыткі. Гэта абавязвае настаўніка быць у поўнай меры прыкладам для вучняў. Пісаць трэба акуратна, прыгожа, буйнымі літарамі, тое-ж самае і ў адносінах да чарцяжа. Асаблівую ўвагу настаўнік павінен звярнуць на граматнасць і правільнасць свайго пісьма. Надзвычайна дрэнна атрымліваецца, калі ў пісьме, чарцяжы або зарысоўках настаўніка пападаюцца тыя або іншыя, нават дробныя памылкі, або недакладнасці. Такое з'явішча з'яўляецца недапушчальным і нецярпімым.

Настаўнік павінен заўсёды памятаць, што немэтазгодна даваць вучням адразу гатовыя вывады і фармулёўкі. Карысці ад чыста механічнага іх засваення няма ніякай. Галоўнае гэта тое, каб вучні зразумелі, прадумалі, асмыслілі кожны вывад, кожную фармулёўку. Гэта, безумоўна, аблегчыць справу моцнага засваення і запамінання вучэбнага матэрыялу, зробіць працэс авалодання ведамі больш актыўным, цікавым і дзейным.

ЗАЎВАГА. У наступным артыкуле мы застановімся на пытанні аб тым, як павінен працаваць настаўнік, каб забяспечыць моцнае засваенне ведаў, як павінен быць пастаўлен учот ведаў на ўроку, аб дысцыпліне на ўроку і аб выхаваўчай рабоце ў час урока.

*І. Голуб*

# Аб сувязі паміж асноўнымі электратэхнічнымі правіламі

Паміж асноўнымі электратэхнічнымі правіламі існуе самая цесная арганічная, унутраная сувязь...

Між тым, гэтыя правілы (Ампера, бураўчыка, левай і правай рукі) звычайна даюцца як некаторыя рэцэпты для вызначэння тых або іншых шукаемых напрамкаў, як рэцэпты, увадзімыя чыста фармальным чынам без усякай сувязі з уласцівасцямі электрамагнітнага поля і без усякай сувязі аднаго з другім.

Гэтая заўвага датычыцца не толькі курсаў фізікі для сярэдняй школы, але і самых салідных вузаўскіх падручнікаў па электрычнасці (Эйхенвальд, Грымзель і іншыя).

Зусім відавочна, што такое становішча вядзе да павярхоўнага, чыста фармальнага засваення асноўных электратэхнічных правіл, маючых не толькі вялікае практычнае значэнне, але і значную тэарэтычную каштоўнасць для разумення ўзаемадзенняў у магнітным полі.

Задача данага артыкула і заключаецца ў тым, каб паказаць тую арганічную сувязь, якая існуе паміж указанымі вышэй правіламі, і гэтым самым паказаць якім чынам гэтыя правілы павінны быць ізложаны вучням і студэнтам.

## А. Правіла Ампера і правіла бураўчыка

Правіла бураўчыка (Максвел) у вельмі зручнай форме фіксуе прасторавую сувязь паміж напрамкам току і напрамкам сілавых ліній утворанага ім (токам) магнітнага поля.

Правіла Ампера змяшчае, па-першае, указанне аб наяўнасці механічнага ўзаемадзеяння паміж токам і магнітам (уласна кажучы, паміж двума магнітнымі палямі) і дае напрамак механічнай сілы, прыкладзенай да магніта (утачненне гл. ніжэй).

Але, разам з гэтым правіла Ампера паказвае напрамак сілавых ліній, а, значыць, і вектара напружанасці[1]) магнітнага поля току ў данай точцы.

---

[1]) З тэрмінаў: „напружанасць", „напружанне", „сіла поля" мы, услед за прафесарам І. Е. Тамам, ужываем толькі першы, лічачы трэці няправільным, а другі пакідаючы для абазначэння рознасці патэнцыялаў.

Паяснім гэтую думку на некалькіх прыкладах:

I. Возьмем прамалінейны ток (рыс. 1). Каб атрымаць напрамак вектара напружанасці ў некаторай точцы поля *O*, трэба праз праваднік і даную точку *O* правесці плоскасць; вектар напружанасці будзе перпендыкулярны гэтай плоскасці і накіроваен у бок, паказваемы для паўночнага полюса магніта правілам Ампера.

II. Возьмем кругавы ток (рыс. 2). Вектар напружанасці, напрыклад, у точцы *C* перпендыкулярны плоскасці контура. Напрамак яго лёгка вызначаецца правілам Ампера.




Рыс. 1.



Рыс. 2.

III. Саленоід (рыс. 3). Напрамак вектара напружанасці ўнутры саленоіда лёгка знайсці, паклаўшы правую руку на саленоід па напрамку току тады вялікі палец пакажа шукаемы напрамак сілавой лініі і вектарнай на пружанасці. Карацей,—трэба скарыстаць правіла Ампера.

На гэтых прыкладах мы паказалі, што сувязь паміж напрамкам току і напрамкам сілавых ліній утворанага ім магнітнага поля (або напрамкам вектара напружанасці, таму што вектар напружанасці з'яўляецца датычнай да сілавой лініі) вызначаецца і правілам Ампера. Праўда, правіла Ампера



Рыс. 3.



не падкрэслівае ўзаемнай перпендыкулярнасці плоскасці сілавой лініі і элемента току, таму што стрэлка ўстанаўліваецца па напрамку роўнадзеючай двух сіл—зямнога поля і поля току; гэта зроблена ў правіле бураўчыка.

Такім чынам, відаць сувязь паміж правілам Ампера і правілам Максвела (правілам «бураўчыка»).

## Б. Правіла левай рукі і правіла Ампера



Правіла левай рукі (Арнольд, Флемінг), як вядома, дае ў залежнасці ад напрамку магнітнага поля і напрамку току ў праваднiку—напрамак руху апошняга пад дзеяннем механічнай, так званай амперавай сілы. Лёгка паказаць сувязь паміж гэтым важнейшым (напрамак руху якара электрама-





тора) электратэхнічным правілам і правілам Ампера. Няхай дано магнітнае поле (рыс. 4) і няхай у гэтае поле змешчан праваднік AB, па якому цячэ ток указанага стрэлкай напрамку.

Паспрабуем вызначыць напрамак руху праваднікa AB на аснове правіла Ампера. Разважаем так: паўночны полюс магніта *N* пры даным напрамку току ў праваднiку, згодна правіла Ампера, павінен, будзь ён лёгкарухомы, атрымаць рух налева. Пакольki магнiт нерухомы, то рухомы праваднік, на аснове трэцяга закона Н'ютона, будзе рухацца ўправа. Гэта і ёсць шукаемы напрамак руху праваднікa «ажыўленага» токам у магнітным полі. Тыя-ж вынікі, ясна, дае правіла левай рукі.

Возьмем яшчэ прыклад: няхай дана двухполюсная дынамамашына пастаяннага току (рыс. 5). Трэба пры заданых на чарцяжы ўмовах[1]) вызначыць



Рыс. 4.



Рыс. 5.

напрамак руху якара (машынай карыстаюцца, як відаць, у якасці матора), карыстаючыся правілам Ампера.

Прымяняем правіла Ампера да праваднікa *B*. Няцяжка заўважыць, што паўночны полюс магніта пры яго лёгкарухомасці павінен адхіліцца ўверх (пунктырная стрэлка); значыць пры даных умовах праваднік будзе рухацца ўніз.

Аналагічнае разважанне паказвае, што праваднік *A* будзе рухацца ўверх. Атрымліваецца пара сіл, верцячая якар па стрэлцы гадзінніка.

Такім чынам, напрамак руху праваднікa з токам у магнітным полі можа быць вызначан без цяжкасці і пры дапамозе правіла Ампера. Абодва гэтыя правілы (правіла Ампера і правіла левай рукі) падкрэсліваюць два розныя бакі аднаго і таго-ж працэса ўзаемадзеяння, састаўляючага, дарэчы сказаць, сутнасць трэцяга закона Н'ютона.

Такім чынам сувязь гэтых двух правіл зусім відавочна.

## B. Правіла правай рукі. Закон Ленца. Сувязь з правілам левай рукі

Разгледзім, урэшце, правіла правай рукі (Арнольд, Флемінг), якое дае напрамак індуктыраванай электрарухаючай сілы і індуктыраванага току (будзем лічыць ва ўсіх далейшых разважаннях контур замкнутым).

Лёгка паказаць сувязь гэтага правіла і больш агульнага закона Ленца з правілам левай рукі.

---

[1]) ⊕ азначае, што ток у праваднiку ідзе ад нас за плоскасць чарцяжа;
⊙ азначае, што ток ідзе да нас з-за плоскасці чарцяжа.

Няхай праваднік $AB$, ажыўлены токам, перамяшчаецца пад дзеяннем механічнай сілы $f$ управа.

Пры гэтым праваднік будзе перасякаць сілавыя лініі магнітнага поля, і на яго канцах будзе індуктыравацца электрарухаючая сіла індукцыі. Які будзе напрамак гэтай электрарухаючай сілы і звязанага з ёю току?

Няцяжка бачыць, што гэты напрамак будзе процілеглы напрамку току ад крыніцы. Гэта з'яўляецца вынікам закона захавання энергіі. Сапраўды,




Рыс. 6.




Рыс. 7.

дапусцім, што ток індукцыі мае той-жа напрамак, што і ток ад крыніцы. Да чаго вядзе гэтае дапушчэнне?

Няхай электрарухаючая сіла крыніцы току (напрыклад, акумулятара) будзе $E$, электрарухаючая сіла індукцыі $e$, супраціўленне контура $R$. Тады пры зробленым вышэй дапушчэнні сумарная электрарухаючая сіла, дзеючая ў контуры замест $E$, будзе $(E+e)$; адсюль ток будзе, замест велічыні $\frac{E}{R}$, мець большую велічыню $\frac{E+e}{R}$, а таму магутнасць, спажываемая ў контуры ў выглядзе цяплыні, замест велічыні $\frac{E^2}{R}$ будзе мець велічыню $\frac{(E+e)^2}{R}$.

Такім чынам, дастаўленая крыніцай у контур энергія роўна $\frac{E^2}{R}$, а зрасходваная роўна $\frac{(E+e)^2}{R}$. Лішак энергіі атрыман з нічога. Наша дапушчэнне няправільнае: яно супярэчыць закону захавання энергіі.

Цяпер, няхай $AB$ праваднік (рыс. 7), у якім спачатку няма току, і мы перасоўваем яго ўправа; тады, на аснове закона захавання энергіі, павінна паявіцца сіла, прыкладзеная да праводніка і накіраваная ўлева.

Такая сіла, па правілу левай рукі, будзе ў тым выпадку, калі індуктыраваны ток будзе мець напрамак да нас. Такім чынам, мы паказалі, што напрамак электрарухаючай сілы індукцыі можа быць знойдзен па правілу левай рукі.




Рыс. 8.

Паяснім гэта яшчэ на прыкладзе з дынамамашынай. Прывядзем схему (рыс. 8).

Няхай машына мае вярчальны рух па стрэлцы гадзінніка. Вызначыць напрамак індуктыраванай электрарухаючай сілы, карыстаючыся правілам левай рукі (а не правай).

Разважаем так: пры руху якара па стрэлцы гадзінніка індуктыраваная электрарухаючая сіла і ток павінны мець такі напрамак, каб яго (току) узаемадзеянне з магнітамі давала-б процідзеючы вярчальны момант. Адваротнае дапушчэнне прыводзіць да парушэння закона захавання энергіі.

Пакажам гэта: няхай на валу нашага якара насаджан шкіў і пры дапамозе раменнай перадачы рух якара можа перадавацца таму ці іншаму рабочаму механізму, і значыць, апошнім будзе расходвацца тая ці іншая частка механічнай магутнасці, якая развіваецца на валу рухавіка. Для прастаты далейшых разважанняў трэнне якара ў падшыпніках аб паветра і іншае не будзем прымаць у разлік.

Дапусцім, што мы падводзім да вала машыны механічную магутнасць у колькасці $N$ *кгм/сек*; няхай $a$ *кгм/сек* перадаецца ў выглядзе механічнай-жа магутнасці пры дапамозе шківа рабочаму механізму, а астатнія $N-a$) *кгм/сек* ператвараюцца пры дапамозе працэса электрамагнітнай індукцыі ў электрычную магутнасць. Дапусцім цяпер, што механічны верцячы момант, утвораны гэтым токам, будзе дзейнічаць у той-жа бок, у які дзейнічае прыкладзены намі са зне да дынамамашыны верцячы момант. Гэты момант вярчэння, утвораны ўзаемадзеяннем току і магнітаў, дае на шківе ў выглядзе механічнай магутнасці $(N-a)$ *кгм/сек*.

Атрымліваецца наступны баланс энергіі: падведзена $N$ *кгм/сек*, адведзена ў выглядзе электрычнай магутнасці праз калектар і шчоткі, $(N-a)$ *кгм/сек*, перададзена ў выглядзе механічнай магутнасці рабочаму механізму пры дапамозе шківа і раменнай перадачы— $[a+(N-a)]=N$ *кгм/сек*. Усяго, такім чынам, адведзена $N-a+N=(2N-a)$ *кгм/сек*. Значыць, падведзена $N$ *кгм/сек*, атрымана больш чым падведзена—$(2N-a)$ *кгм/сек*. Адкуль атрымаўся гэты лішак? З нічога. Значыць, нашае дапушчэнне няправільнае: яно супярэчыць закону захавання энергіі.

Такім чынам, павінен атрымацца процідзеючы момант (пунктырныя стрэлкі на рыс. 8). У такім выпадку, па правілу левай рукі, вызначаем, што ток у праваднiку $B$ цячэ ад нас (за плоскасць чарцяжа), а ў праваднiку $A$ да нас. Гэта і ёсць шукаемы напрамак току, вызначаемы звычайна карацейшым шляхам па правілу правай рукі (Арнольд, Флемінг).

Сутнасць сувязі паміж правілам правай і левай рукі заключаецца ў зваротнасці працэса ператварэння механічнай энергіі ў энергію электрычнага току і наадварот.

Гэта будзе відаць з рысунка 9.



Рыс. 9.

a) Правіла левай рукі: праваднік, ажыўлены токам, атрымлівае рух управа. Энергія электрычнага току ператвараецца ў механічную.

b) Правіла правай рукі: пры адваротным руху правадніка ў ім генеруецца ток, які цячэ ў тым-жа напрамку, што і ў праваднiку на рыс. *a*. Механічная энергія ператвараецца ў энергію электрычнага току.

Сувязь паміж абодвума апісанымі працэсамі, сфармуляванымі ў правілах правай і левай рукі, заключаецца, урэшце, у тым, што ў абодвух выпадках мы маем справу з працэсам пераўтварэння магнітных сілавых ліній; прычым, у першым выпадку з токанясучага правадніка «знімаюцца» маг-

нітныя звенні (пертварэнне энергіі электрычнага току ў механічную); у другім выпадку адбываецца «нанізванне» магнітных звенняў на праваднік у працэсе «рэзання» (правільней адпачкоўвання) ім сілавых ліній магнітнага поля.

Застанаўлівацца на механізме гэтых працэсаў, па Фарадэю, мы, на жаль, не можам; гэта выходзіць за рамкі данага артыкула.

Можна паставіць пытанне: ці можна, наогул, абыйсціся без вышэйпрыведзеных правіл і вызначаць шукаемыя напрамкі, выходзячы ў кожным выпадку непасрэдна з узаемадзеяння сілавых ліній?

Калі не лічыць правіла бураўчыка, якое канстатуе пэўны, выходны для электратэхнікі факт і змяшчае ў сабе прынятую ўмову аб тым, што сілавая лінія выходзіць з паўночнага полюса і ўваходзіць у паўднёвы, то без астатніх правіл можна абыйсціся, замяніўшы іх разгляданнем узаемадзеяння і выходзячы з асноўных уласцівасцей сілавых ліній (прадольнае цяжэнне, бакавы распор, зліцце процілегла накіраваных сілавых ліній пры кантакце) у кожным канкрэтным выпадку. Гэтая думка ілюстравана многімі прыкладамі акадэмікам В. Ф. Міткевічам (гл. яго курс «Физические основы электротехники» Дзяржаўнае выдавецтва, 1928 г.).

Зразумела, гэтая тэарэтычная магчымасць вызначаць напрамкі на аснове аналіза ўзаемадзеяння сілавых ліній у кожным асобным выпадку ні ў якой меры не памяншае значэння разабраных вышэй правіл, як вельмі зручных, простых спосабаў для хуткага вызначэння шукаемых напрамкаў.

ЗАУВАГА. Асноўныя электратэхнічныя правілы маюць самую цесную, арганічную сувязь. Гэтая сувязь павінна быць яскрава выяўлена ў працэсе выкладання адпаведных раздзелаў курса электрычнасці і электратэхнікі. Такая пастаноўка праблемы павядзе да больш глыбокага ўспрыймання пытанняў, звязаных з электрамагнітным полем. А гэта вельмі важная задача.

*І. Н. Марголін*

# Малюнак на ўроках мовы ў пачатковай школе

Гэтым артыкулам мы мяркуем дапамагчы малавопытнаму, пачынаючаму педагогу і на канкрэтным прыкладзе паказаць, як можна выкарыстаць наглядны матэрыял і якое значэнне гэта можа мець у нашай вучэбнай справе.

Канкрэтна мы маем на ўвазе выкарыстоўванне малюнка, графічнага мастацтва пры выкладанні мовы ў пачатковай школе для развіцця жывой і пісьмовай мовы нашых вучняў.

Дзе і пры якіх умовах можам карыстацца малюнкам?

Малюнак можа быць выкарыстан пры падрыхтоўцы да чытання; для ўзбагачэння дзіцячага лексікона (называць імёны рэчаў, нарысаваных на гэтым малюнку, класіфікацыя гэтых рэчаў); пры навучанні прыдумваць і канструяваць фразы (пры адказах на заданыя пытанні і т. д.); пры рабоце па складанню плана расказа; пры ўсякай творчай рабоце (складанне расказа, драматызацыя мясцовага эпізода, трансфармаванне яго, г. зн. перадача аднаго і таго-ж эпізода ад розных асоб) і т. д.

Разгледзім зараз указаныя моманты і праапалізуем, якую ролю яны могуць адыгрываць у выкладанні мовы і як іх метадычна можна выкарыстаць для школьнай работы.

Спачатку аб першагодніку.

Першагоднік прыходзіць у школу з вельмі недасканалымі аналізатарамі. Вока яго яшчэ слабае і не можа доўга затрымлівацца на адным прадмеце. Дзіцё глядзіць на ўсё, але мала бачыць, прабягае міма розных падзей, разбіраецца ў іх вельмі дрэнна. Вось чаму малюнак на першых кроках школьнага жыцця павінен адыграць важную ролю для развіцця дзіцячых аналізатараў, павінен дапамагчы арыентацыі дзіцяці ў акружаючым яго асяроддзі, павінен падрыхтаваць яго да чытання літар і слоў.

Метадычна патрэбна тут прытрымлівацца прыблізна наступных прыёмаў:

Малюнак вывешваецца на класнай дошцы. Калі дзеці яго разгледзяць, настаўнік прапануе ім такія пытанні:

Што і якія рэчы намалёваны? Назавіце гэту рэч, гэтыя рэчы. Што робіць намалёваны прадмет (гэта ў тым разе, калі прадмет жывы)? Дзе знаходзіцца намалёваная рэч (на якім баку, на левым знізу, зверху)? На што даную рэч ужываюць? і т. д.

Такі аналіз, па думцы К. Бархіна, дапамагае набыццю зрокава-слухавых і разгаворна-маторных нрадстаўленняў, падрыхтоўваючы дзіця да чытання ва ўласным сэнсе гэтага слова.

Ужо на першым годзе навучання малюнак можа быць выкарыстан у больш шырокай форме, чым тут указана. Пасля таго, як вучань больш або менш навучыўся чытаць асобныя дэталі малюнка, можна перайсці да больш

складанай формы аналіза малюнка, уносячы ў гэту работу некаторыя моманты абагульнення, арыентуючы вучня на асяроддзе, дзе адбываецца намалёваная падзея, на час, калі адбываецца падзея і т. д. Інакш кажучы, мы даем магчымасць вучню ўвязваць адну падзею з другой.

На першых кроках школьнага жыцця малюнак можа заняць пэўнае месца пры навучанні дзяцей класіфікаваць прадметы. Вучань чытае па малюнку: стол, крэсла, шафа, ложак і т. д. і ў выніку атрымлівае абагульненне пад назвай мэбля. Тое-ж самае з вопраткай, з пасудай і т. д. Такая класіфікацыя, безумоўна, неабходна, бо гэта дае магчымасць настаўніку канкрэтызаваць абагульненні на пэўных канкрэтных прадметах, вучань атрымлівае першыя паняцці аб абстракцыі. Ад вуснай класіфікацыі прадметаў лёгка перайсці да пісьмовай, а зрабіць гэта пры дапамозе малюнка куды лягчэй і лепш, чым слоўным шляхам, як гэта раіцца многімі падручнікамі. Тое-ж трэба сказаць аб практыкаванні ў адзіночным і множным ліку. Такія практыкаванні пры дапамозе малюнка ўспрыймаюцца значна лягчэй.

Зусім зразумела, што для першага года навучання павінны ўжывацца малюнкі з простым і лёгкім зместам, з лёгкім і зразумелым сюжэтам. Не трэба карыстацца малюнкамі, дзе шмат дзеючых асоб, пейзажнымі малюнкамі і наогул такім матэрыялам, які мала зразумелы і мала даступны данаму ўзросту. Малюнак, галоўным чынам, павінен трактаваць падзеі дзіцячага жыцця, іх акружэння. Фабула малюнка павінна быць простай, рысунак—мастацкім, адпавядаючым рэальнай сапраўднасці, лепш рознакалёрным, чым аднатонным.

У першы год навучання павінны заняць пэўнае месца надпісы пад малюнкам. Гэта практыкаванне трэба распачаць з таго, што настаўнік прапануе вучню падпісаць асобнае слова, а затым пераходзіць да складання паасобных сказаў. Пры складанні сказаў можа ўжывацца так званы амерыканскі метад, калі малюнак замяняе асобныя словы. Задача састаіць у тым, каб скласці сказ такім чынам, дзе паасобныя рысункі замяняюцца адпаведнымі словамі.

Гульні пры скарыстанні малюнкаў. Навучанне грамаце ў школе ў малавопытнага настаўніка ў большасці сваёй праходзіць сумна і манатонна. Такія ўрокі з'яўляюцца цяжкімі як для настаўніка, так і для вучняў. Гэтыя ўрокі трэба максімальна ажывіць, унесці ў іх элемент гульні (не ператвараючы, безумоўна, навучання ў гульню). У гэтым шмат можа дапамагчы малюнак. Пры гэтым можна карыстацца рознымі прыёмамі.

Пераходзім зараз да старшых класаў. Як можна карыстацца малюнкам у старшых класах.

У старшых класах пачатковай школы работа па малюнку можа заняць цэлы ўрок, і пры пэўнай метадычнай падрыхтоўцы настаўніка такія ўрокі могуць даць самыя лепшыя рэзультаты, ажыўляючы работу па мове. Якая-ж методыка правядзення такога ўрока?

Зусім зразумела, што выпрацаваць раз назаўсёды шаблон і прытрымлівацца яго як нечага ўстаноўленага,—нельга. Усё залежыць ад узросту дзяцей, ад іх падрыхтоўкі, ад сюжэта малюнка і мэтавай устаноўкі данага ўрока. Аднак, некаторая схема можа дапамагчы настаўніку ў яго рабоце, і мы лічым таму не будзе лішнім даць яе ў такім выглядзе:

1. Падрыхтоўчая работа.
2. Успрыйманне малюнка.
3. Прапрацоўка зместу малюнка.
4. Даць загаловак малюнку.
5. Распрацоўка плана малюнка.
6. Творчая работа ў вуснай або пісьмовай форме.

Разгледзім кожны з гэтых момантаў паасобку.

Спачатку аб падрыхтоўчай рабоце. Вельмі часта бывае, што малюнак мае даволі складаную фабулу, малюнак гаворыць аб рэчах, якія дзецям не зусім знаёмы. У даным выпадку надзвычай важна правесці з дзецьмі гутарку да таго часу, калі малюнак ім яшчэ не паказан. Гутарка ў даным выпадку не закранае непасрэдна малюнка, але паступова набліжаецца да разумення яго. Іншы раз гутарка можа быць заменена чытаннем якоганебудзь апавядання, калі яно па свайму зместу набліжаецца да фабулы малюнка. А іншы раз гутарка можа быць заменена расказам настаўніка. Усё гэта разам узятае павінна мець адну мэтавую ўстаноўку: падрыхтаваць вучняў да ўспрыймання малюнка як мага глыбей і рознастайней.

Толькі пасля таго, як падрыхтоўчая работа праведзена, малюнак паказваецца дзецям. Ён вывешваецца на дошцы ў класе або раздаецца вучням, калі мы справу маем з малюнкам-адкрыткай. Калі-ж малюнак невялікага фармату і калі ёсць ён у адным толькі экземпляры, то неабходна паказаць яго кожнаму вучню асобна. У даным выпадку надзвычай важна, каб першы момант успрыймання прайшоў у спакойнай абстаноўцы, каб дзеці маглі ўясніць сабе змест малюнка, асэнзаць яго, звярнуць увагу на мастацкую вартасць і т. д.

Чытанне малюнка павінна прайсці ў выглядзе жывой гутаркі паміж настаўнікам і вучнямі. Пытанні і адказы—найлепшы прыём, каб паглыбіць пазнаванне дзяцей. Пры гэтым трэба прытрымлівацца такога парадку: у пачатку ставіць такія пытанні, якія дапамагаюць вучню знаёміцца са знешнім выглядам малюнка, з фабулай, сюжэтам, а затым ужо ідуць лагічныя пытанні, якія дапамагаюць пазнаваць малюнак не толькі ў яго фабулярным аспекце, але таксама і ўнутраныя прычыны, выклікаўшыя тыя ці іншыя падзеі, якія дапамагаюць растлумачыць, чаму і пры якіх умовах тыя ці іншыя падзеі адбыліся.

Творчае ўспрыйманне малюнка. Надзвычай важна таксама навучыць вучня асэнзаць мастацкую старану самага малюнка, як малюнак гэты дан не толькі па свайму зместу, але і па сваёй форме. Трэба навучыць дзяцей прыкмячаць позу ўдзельнікаў падзей, заўважаць выраз радасці, гора, адвагі, баязлівасць і т. д. Таксама важна звярнуць увагу дзяцей на фарбы, якімі напісаны малюнак, на пытанні перспектывы і т. д.

Добра прадуманы загаловак вельмі часта перадае не толькі фабулу, але характарызуе таксама адносіны тварца і чытача да гэтай фабулы. Таму неабходна прыдаваць асаблівае значэнне пытанню дачы загалоўка. Загаловак павінен быць прадуман усім класам, што, безумоўна, не азначае, што кожны вучань пры індывідуальнай рабоце не мае права выбіраць загаловак па свайму жаданню.

На канкрэтным прыкладзе пакажам, як трэба рабіць аналіз малюнка ў трэціх—чацвертых класах. Для гэтай мэты возьмем малюнак, які дан у беларускай кнізе для чытання ў другім класе. Сюжэт малюнка: у селяніна-бедняка, які не заплаціў падатку,ураднік выводзіць з двара апошнюю кароўку.

Нашаму совецкаму вучню такі сюжэт зусім не знаёмы. У совецкай рэчаіснасці ён такой справы не наглядае. Яму цяжка зразумець, што тут адбываецца, і таму падрыхтоўчая работа, аб якой мы гаварылі, безумоўна, неабходна. Пасля падрыхтоўчай работы даем малюнак дзецям, прапануючы ім наступныя (узятыя прыблізна) пытанні:

1) Што вы бачыце на малюнку?

2) Хто вядзе карову і адкуль яе выводзяць?

3) Паглядзіце як апранут чалавек, які выводзіць карову? Чаму ён так апранут?

4) Колькі чалавек, апрача ўрадніка, знаходзіцца вакол каровы і хто яны такія?
5) Хто стаіць каля каровы. Што яны робяць?
6) Што робіць старык і старуха?
7) Чаму ўраднік выводзіць карову?
8) Чаму гаспадары не даюць ураднiку вывесці карову?
9) Хто такія гаспадары? Багатыя яны ці бедныя сяляне?
10) Чаму вы так думаеце (на адказ—беднякі), адкуль гэта відаць?

Тут дзеці павінны падрабязна апісаць сялянскую хату, вопратку, якія сведчаць, што селянін з'яўляецца бедняком.

Зразумела, што прыведзеныя пытанні не вычэрпваюць зместу малюнка. Тут неабходна падкрэсліць класавы характар сюжэта, завастрыць увагу дзяцей на розніцы паміж палітыкай царскага самадзяржаўя—з аднаго боку, і з другога—савецкай улады ў дачыненні да бяднейшага сялянства. Таму, калі ўсе пытанні сюжэта і зместу вычарпаны, неабходна настаўніку паглыбіць разуменне дзяцей аб розніцы паміж становішчам сялянства раней і цяпер, выхоўваць у іх пачуццё ненавісці да эксплаататараў, бо яны на канкрэтным прыкладзе бачаць адносіны царскага самадзяржаўя да бяднейшага сялянства.

Пытаннямі і адказамі работа па малюнку не вычэрпваецца. Пасля таго, як змест малюнка пытаннямі і адказамі высветлен, можна распачаць складанне расказа. Кожная фраза канструюецца пры ўдзеле ўсяго класа, і ўжо аформленая яна запісваецца вучнямі ў сшыткі. Аднак, магчыма, што кожны вучань працуе самастойна, г. зн. піша расказ пад уласным загалоўкам.

У памянёным эпізодзе, дзе гаварылася аб тым, што за нявыплату падатку забіралася карова, удзельнічае чацвера людзей: ураднік, галоўная дзеючая асоба данай падзеі, двое старых, у якіх забіраюць карову і якія аказваюць толькі пасіўнае супраціўленне, і іх дачка, якая супраціўляецца актыўна, трымае карову і не дазваляе яе вывесці з двара. Індывідуальная пісьмовая работа ў даным разе можа насіць рознастайны характар, можа быць трансфармавана так, што адзін вучань гэты-ж самы эпізод расказаў ад імені старыка ці старухі, або дачкі. Персаніфікацыя эпізода ў даным выпадку дапаможа вучням глыбей асазнаць характар удзельнічаючых асоб і іх дачыненне да данай падзеі, а таксама высветліць іх псіхалагічныя перажыванні. Лепшыя пісьмовыя работы павінны быць зачытаны пасля перад класам.

Другія вусныя і пісьмовыя формы прапрацоўкі малюнка.

Спачатку пра інсцэніроўку. Форма дыялага для вучняў старшых класаў пачатковай школы дастаткова зразумела і вельмі цікава. Памянёны малюнак можа ператварацца ў інсцэніроўку і тым, што мы кожнаму ўдзельніку даем асобную ролю, ствараем для яго дыялаг, яго рэпліку, эпізод малюнка ператвараецца ў жывую справу і становіцца для вучняў зусім ясным. Перад вучнямі павінна быць пастаўлена задача ўдумвацца ў адносіны дзеючых асоб да падзеі, ясна і дакладна гэтыя адносіны ахарактарызаваць праз сваю рэпліку. Такая работа адыгрывае вялікую ролю ў развіцці вуснай мовы дзяцей. Пры сур'ёзнай рабоце вакол такой фабулы яна можа разрасціся ў даволі цікавы драматычны эпізод, які можна інсцэніраваць. Мы гэтай работай перакідаем, такім парадкам, мост праз школьную работу да пазашкольнай, ствараецца матэрыял для пазашкольнай работы, у чым наша школа, дарэчы сказаць, мае такую вострую патрэбу.

Творчае расказванне. Творчая работа вакол малюнка можа мець розныя варыяцыі. Аб некаторых мы ўжо гаварылі. Можам назваць яшчэ такую творчую работу, у аснову якой могуць быць пакладзены складанні расказа па

падабенству, паводле кантраста, па набліжэнню да сюжэта малюнкаў і т. д. Ва ўсіх такіх работах прыдумваюцца фабулы, якія не выходзяць непасрэдна ад малюнка, але якія набліжаюцца да яго, могуць мець з ім тую ці іншую агульную сувязь. Можна таксама прапанаваць дзецям прыдумваць пачатак падзеі, канец яе, адпаведныя данаму малюнку.

Зусім зразумела, што мы далёка не вычарпалі ўсе формы і магчымасці работы з малюнкам. Мы толькі назвалі асноўныя моманты і кожны вопытны настаўнік можа тут унесці самыя рознастайныя варыяцыі.

Усё залежыць ад яго творчых магчымасцей, ад яго падрыхтоўкі. Але паказаныя ўжо формы работы з малюнкам павінны пераканаць кожнага настаўніка, што малюнак на ўроках мовы як сродак для развіцця вуснай і пісьмовай мовы дзяцей павінен заняць пачэснае месца ў школе.

Дзе-ж узяць адпаведны малюнак для нашых мэт?

Нагляднымі дапаможнікамі і ў прыватнасці малюнкамі наша школа яшчэ дагэтуль даволі бедная. Аўтары стабільных падручнікаў нават у пачатковай школе аддаюць вельмі мала ўвагі гэтаму пытанню. Некаторыя намёкі на ілюстраванне матэрыялу мы маем у кніжках для першага і другога года навучання, а для старшых класаў гэта лічыцца чамусьці лішнім. Асобныя малюнкі для мэт нагляднага навучання пакуль што не выдаюцца. Няўжо-ж мы і дагэтуль не можам скласці і выдаць школьныя малюнкі на тэмы нашай савецкай рэчаіснасці?! Кожны эпізод нашай светлай соцыялістычнай будоўлі можа нам даць самы рознастайнейшы матэрыял для малюнка, матэрыял, які, безумоўна, можа зацікавіць і прывабіць нашых вучняў. Гэта ўпушчэнне ў нашым школьным будаўніцтве неабходна зараз-жа выправіць. У прыватнасці нашы стабільныя падручнікі для пачатковай школы неабходна ўсяк ілюстраваць, забяспечыць іх малюнкамі для вуснай і пісьмовай работы, з другога боку, патрэбна як мага хутчэй выдаваць спецыяльныя калекцыі малюнкаў для гэтай мэты.

Зусім зразумела, што настаўнік не можа стаяць у баку ад гэтай справы, а тым больш не можа чакаць пакуль школа набудзе малюнкі ў дастатковай колькасці. Патрэбна выкарыстаць малейшыя магчымасці для гэтай мэты. Кожны падыходзячы малюнак у кніжцы для чытання, выразка з альбома, журнала, газеты—усё павінна быць сабрана з тым, каб стварыць неабходныя прадпасылкі для карыстання малюнкам на ўроках мовы.

---

*М. Карпачоў*

# Культуру мовы ў школе—на належную вышыню

Барацьба за культуру мовы вучняў з'яўляецца першачарговай задачай усяго настаўніцтва нашых школ на сучасным этапе. На працягу раду год у нашай палітэхнічнай школе пытанне культуры мовы вучняў было амаль што знятым пытаннем.

Гэтае пытанне з'яўляецца адным са слабых месц у рабоце нашых школ, асабліва вясковых.

Вучні, скончыўшыя няпоўную сярэднюю вясковую школу, пры паступленні ў гэтым годзе ў педтэхнікум у большасці не змаглі звязна пераказаць фабулу таго ці іншага твору мастацкай літаратуры, даць разгорнутай характарыстыкі таго ці іншага літаратурнага героя, часта добра ведаючы пастаўленае перад імі пытанне, дзякуючы адсутнасці навыкаў ізлагаць свае думкі, давалі няпоўнацэнныя, а іншы раз зусім няправільныя, блытаныя адказы.

Таму настаўнікі не павінны забываць асноўнага: вядучы барацьбу за дакладнае і поўнацэннае засваенне ведаў вучнямі, неабходна штодзённа сістэматычна вучыць вучняў гаварыць, прывіваць ім абароты літаратурнай мовы, узбагачаць іх лексікон, пашыраць фразеалогію вучняў.

Безумоўна, самымі элементарнымі і першапачатковымі прыёмамі барацьбы за культуру мовы з'яўляецца барацьба за арфаграфічную граматнасць. З гэтага патрэбна пачынаць. Але абмежавацца толькі барацьбой за арфаграфічную граматнасць будзе надзвычай недастаткова і няправільна. Разам з барацьбой за арфаграфічную граматнасць школа павінна змагацца і за стылістычную граматнасць, за ўзбагачэнне слоўніка мовы вучняў, за выгнанне з мовы дзяцей зваротаў і слоў, нанесеных з вуліцы, узятых з «блатнога» жаргона, вульгарызмаў і дыялектызмаў.

Усе настаўнікі ведаюць, што нашы вучні вельмі часта ўжываюць такія словы, як «шамаць», «бузіць», «на во», «на вялікі палец», «пакрыць на сходзе», «прадзёрнуць у газеце», «задаёха» і інш., хлопчыкі нават і малодшых класаў часта называюць дзяўчынак «бабамі».

З усімі гэтымі словамі і зваротамі настаўнікі іншы раз не вядуць барацьбы, не прыслухоўваюцца да мовы вучняў у часе перапынкаў, на вуліцы, а іншы раз самі садзейнічаюць укараненню ў мову вучняў рознага роду вульгарызмаў. Так, напрыклад, у насценнай газеце 4-га класа 2-й няпоўнай сярэдняй школы ў трох вучнёўскіх артыкулах па некалькі раз фігуруюць словы «хлопцы і дзеўкі». Настаўніца класа, правяраючы гэтыя дзіцячыя допісы, не заўважыла і не выправіла як след такіх выразаў, як «Стыдна так задавацца», «Хлопцы і дзеўкі павінны ведаць, што ўсе хлопцы і дзеўкі роўныя».

Барацьбу за культуру мовы студэнтаў Рэчыцкі педтэхнікум рашуча павёў з мінулага года.

У мінулым годзе вялікая колькасць студэнтаў 1-га курса была надзвычай непісьменнай. Таму, перш за ўсё, тэхнікум пачаў з мерапрыемстваў па падняццю арфаграфічнай граматнасці, што з'яўляецца першымі крокамі к развіццю пісьмовай мовы студэнтаў.

На метадычным совеце тэхнікума, пасля вывучэння справы арфаграфіі і стылістыкі, сярод студэнтаў быў пастаўлен даклад з канкрэтнымі мерапрыемствамі знішчэння гэтых недахопаў. Як рэзультат абгаварэння даклада, прынятая пастанова па дакладу з'явілася правіламі арфаграфічнага і стылістычнага рэжыма для студэнтаў і настаўнікаў тэхнікума. Адным з асноўных пунктаў арфаграфічнага рэжыма з'яўляецца: «Ні аднаго лозунга, ні адной аб'явы, газетнай заметкі, заявы ў дырэкцыю і інш. не павінна быць напісана бязграматна». Для ажыццяўлення гэтага да насценгазет кожнага курса былі прымацаваны настаўнікі, якія павінны былі сачыць за арфаграфічнай і стылістычнай граматнасцю насценгазет.

Усе лозунгі і аб'явы заўсёды правяраліся настаўнікамі. А калі дырэктар тэхнікума не прыняў некалькі заяў ад студэнтаў, таму што яны былі няграматна напісаны, дык гэта зрабіла ў сценах тэхнікума вялікую сенсацыю. Зараз студэнты, перш чым падаць заяву дырэктару, некалькі раз яе праверадь і толькі поўнасцю ўпэўніўшыся, што ў заяве няма памылак, падаюць яе ў дырэкцыю.

У правілах рэжыма быў пункт, які асноўнымі выкладчыкамі тэхнікума добрасумленна выконваўся. Пункт гэты гласіў так: «Усе выкладчыкі, незалежна ад дысцыпліны, абавязаны сістэматычна правяраць пісьмовыя работы, даваемыя студэнтам на ўроках, а таксама ў відзе хатніх заданняў. Ацэнка пісьмовых работ па кожнай дысцыпліне павінна ўключаць у сябе моманты арфаграфічны і стылістычны».

У галіне выкладання мовы быў праароблен рад мерапрыемстваў, накіраваных на знішчэнне ў першую чаргу арфаграфічнай непісьменнасці.

Апрача класных практыкаванняў па мове, якія служаць мэтай замацавання новага матэрыялу ўрока, у мінулым годзе ў значнай меры практыкаваліся хатнія заданні на мэтавае спісванне з друкаванага тэксту. Гэта спрыяла знішчэнню непісьменнасці і развівала маторнасць у працэсе пісьма.

Вялікае месца ў барацьбе за арфаграфічную граматнасць студэнтаў займала звычайна праверачная дыктоўка. Практыка паказала, што праверачная дыктоўка мае і вялікае навучальнае значэнне.

У сярэднім праводзілася ў мінулым годзе 2 дыктоўкі ў месяц. Кожная дыктоўка давалася пасля прапрацоўкі адпаведнага раздзела граматыкі. Для дыктоўкі заўсёды падбіраўся закончаны цэльны тэкст, галоўным чынам цэльныя ўрыўкі з мастацкіх твораў.

Перад дыктоўкай прачытваўся тэкст усяго дыктанта, пасля чаго тлумачацца незразумелыя словы і выразы, а потым распачынаецца дыктоўка паасобных сказаў тэксту.

У канцы дыктоўкі тэкст зноў зачытваецца цалкам, а студэнты правяраюць у сябе ў сшытках напісанае.

Як правіла, прытрымліваюцца той думкі, што ў наступны ўрок па мове я павінен прынесці праверачныя дыктоўкі. Зацяжка з праверкай дыктовак і пісьмовых работ, што вельмі часта наглядаецца ў нашых выкладчыкаў мовы, расхаладжвае інтарэс да сваёй работы ў вучняў і не дае таго эфекту, які яна можа даць пры своечасовай праверцы.

На разбор дыктовак я адводжу заўсёды мінімум поўгадзіны, у часе якой разбіраю характэрныя памылкі, зробленыя большасцю студэнтаў класа, выпісваем паасобныя словы на дошцы, студэнты ўсе словы, у якіх яны зрабілі памылкі, выпісваюць на палях кантрольных сшыткаў, паасобныя,

цяжкія ў арфаграфічным напісанні словы выпісваюць у свае арфаграфічныя слоўнікі.

Адным з прыёмаў знішчэння арфаграфічнай непісьменнасці з'яўляецца так званая самаправерачная дыктоўка. Гэты від дыктоўкі, а таксама і ўсе іншыя віды арфаграфічных заняткаў я ўжываю галоўным чынам на 1-м курсе тэхнікума, студэнты якога да паступлення ў тэхнікум у большасці навучаліся ў вясковай няпоўнай сярэдняй школе і там, трэба прама заявіць, яшчэ як след не аўладалі асноўнымі прыёмамі арфаграфіі і стылістыкі.

Самаправерачную дыктоўку ў асноўным я праводжу такім парадкам, як і праверачную, але адводжу пэўны час на ўроку на праверку напісанага студэнтамі, замест таго, каб правяраць гэтыя работы дома. Праверку я раблю так: пасля напісання студэнты абменьваюцца сшыткамі і правяраюць работы адзін другога; пасля гэтага я выклікаю некалькі студэнтаў, якія чытаюць тэкст і адказваюць, як яны напісалі тое, ці іншае слова. Іншы раз гэты від праверкі я замяняю пісьмом гэтых-жа сказаў на дошцы і па іх студэнты правяраюць у сябе ў сшытках і высвятляюць як патрэбна пісаць тое або іншае слова.

Чаго я, дзякуючы пэўнаму арфаграфічнаму рэжыму ў тэхнікуме і агульнай барацьбе ўсіх выкладчыкаў за граматнасць, дамогся ад студэнтаў за год работы? Калі ў мінулым годзе студэнты 1-га курса ў пачатку года ў сярэднім рабілі на старонцы 6 памылак, то ў гэтым годзе амаль не робяць ні адной арфаграфічнай памылкі. Так, з 53-х студэнтаў 2-га курса за 1-ю чвэрць 17 студэнтаў атрымалі «добра» і 2 «вельмі добра», а гэта значыць—19 студэнтаў у кантрольных работах не робяць ні адной арфаграфічнай памылкі; з 46-ці студэнтаў 3-га курса за першую чвэрць гэтага года атрымала 21 «добра», што таксама сведчыць аб значных зрухах у параўнанні з мінулымі годамі ў справе аўладання арфаграфічнай і стылістычнай пісьменнасцю студэнтамі.

Работу па стылістыцы мовы вучняў, узбагачэнню іх лексікона і фразеалогіі, безумоўна, патрэбна пачынаць з настаўніка. У нас прад'яўлены пэўныя патрабаванні да мовы настаўніка на ўроку.

У выпрацаваным арфаграфічным, стылістычным літаратурным рэжыме ў тэхнікуме на гэты навучальны год асноўным патрабаваннем да мовы настаўніка з'яўляецца: «Кожны настаўнік павінен уважліва сачыць за сваей мовай на ўроку, мова настаўніка павінна быць чоткай, пытанні, задаваемыя студэнтам, прадуманыя, правільна сфармуляваныя, у мове настаўніка павінна быць поўная адсутнасць вульгарызмаў, правінцыялізмаў, зваротаў, якія не адпавядаюць законам беларускага сінтакса, кожны настаўнік па сваёй дысцыпліне павінен паставіць пэўныя патрабаванні да запісаў у студэнцкіх сшытках».

Безумоўна, вялікую ролю ў аўладанні стылістыкай мовы адыгрываюць рознага роду ўкладанні. Аб відах і формах укладанняў і іх правядзенні гавораць нам методыка і метадычныя лісты. Таму на іх значэнні і метадыцы правядзення я спынюцца не буду. Праўда, метадычная літаратура аб стылістычных практыкаваннях і сачыненнях у III канцэнтры нашай школы не так багата. І «Метадычныя пытанні выкладання мовы і літаратуры» акад. Замоціна (Менск, 1934 г. БАН) у гэтых адносінах запатрабаванні настаўнікаў не задавальняюць. Нашы настаўнікі іншы раз (і ў асаблівасці вясковых сярэдніх школ) не ведаюць якія віды работы можна ўжываць у кожным класе, дакладна не ведаюць методыкі правядзення ўкладанняў.

У сваім вытворчым плане я намеціў праводзіць адно ўкладанне ў месяц у кожным класе. Самастойныя пісьмовыя работы—укладанні, я галоўным чынам праводжу ў якасці хатніх заданняў, у класе іх практыкую рэдка.

Але тэма кожнага ўкладання ў класе дэталёва растлумачваецца, змест работы абгаварваецца і пасля гэтага студэнты дома пішуць самастойна гэту работу.

У выніку такой работы студэнты 2-га курса надзвычай добра напісалі работу «Восень у калгасе». Работа была дана апісальнага характару, але цэлы рад студэнтаў не задаволіліся гэтым і напісалі, з пэўнымі імкненнямі разгарнуць сюжэт, даволі стылістычна граматныя вучнёўскага характару апавяданні. Цэлы рад работ маюць даволі ўдалыя метафары і эпітэты, трапныя параўнанні, што сведчыць аб імкненні з боку студэнтаў аздобіць сваю ўласную пісьмовую работу.

Студэнты 3-га курса ўвогуле нядрэнна напісалі характарыстыку дзеда Талаша па аповесці «Дрыгва»—Я. Коласа. Праўда, у цэлым радзе работ, асабліва такіх пісьмовых работ, як характарыстыка, заўважаецца беднасць лексікі студэнтаў, няўменне карыстацца сінонімамі. Таму на 1-м курсе пры праходжанні раздзела праграмы «Слова і яго склад» у мяне намечана складанне слоўніка сінонімаў, анонімаў і інш.; пры аналізе твораў мастацкай літаратуры я практыкую выпіску студэнтамі з твораў месц апісання прыроды, разгорнутых мастацкіх метафар, мастацкіх літаратурных дэталей, тых месц, якія наогул падабаюцца студэнтам, эмацыянальна на іх уздзейнічаюць. Такая работа ўзбагачае слоўнік студэнта, развівае яго лексіку і фразеалогію, дае адчуць спецыфіку мастацкага твора і ўрэшце прывучае самога студэнта гаварыць правільнай літаратурнай мовай.

Значную дапамогу ў барацьбе за культуру мовы адыгрывае насценны друк тэхнікума. У агульнай насценгазеце тэхнікума ў гэтым годзе многа было змешчана заметак «За культуру мовы». У гэтай заметцы я прывёў некалькі прыкладаў некультурнасці мовы студэнтаў, завастрыўшы ўвагу на знішчэнне паразітаў мовы з лексікона студэнтаў. У выніку гэтага ў насценгазетах курсаў і інтэрнатаў з'явіліся заметкі студэнтаў, якія цэлым радам канкрэтных фактаў выкрывалі прычыны некультурнасці мовы студэнтаў і давалі практычныя мерапрыемствы за культуру мовы.

Цікава, што самі студэнты высунулі прапанову аб распрацоўцы артыкулаў Максіма Горкага аб мове і матэрыялаў першага ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў. Гэта дало магчымасць дырэкцыі тэхнікума ўнесці ў расклад чарговых лекцый для студэнтаў лекцыю «За культуру мовы».

У гэтым напрамку дырэкцыяй тэхнікума намечана правядзенне адзін раз у шасцідзёнку лекцый па пытаннях літаратуры мовы, астраноміі, прыродазнаўства, дыялектычнаму матэрыялізму, навейшых дасягненнях фізікі, хіміі, матэматыкі і інш. Такія лекцыі, апрача агульнага развіцця студэнтаў, даюць ім навыкі правільнай літаратурнай мовы, прывучаюць іх саміх выступаць па навуковых пытаннях, развіваюць вусную мову.

Па літаратуры я практыкую час-ад-часу правядзенне семінарскіх заняткаў са студэнтамі 3-га курса.

Прапрацоўка творчасці Крапівы на 3-м курсе ў мяне была распланіравана па радках, але, як заключны момант работы, я загадзя двум студэнтам даў семінарскія даклады па творчасці Крапівы. Студэнты-дакладчыкі скарысталі даволі добры крытычны артыкул Замоціна аб творчасці Крапівы («Літаратура і мастацтва» 3-я кніга выд. інст. ЛіМБАН) і ўсё напісанае Крапівой, а ўрэшце атрымаліся даволі добрыя даклады-рэфераты. Безумоўна, усе астатнія студэнты гэты матэрыял у асноўным прапрацавалі, а такім чынам семінарскія заняткі прайшлі актыўна. Такі від работы па літаратуры ў тэхнікумах і 3-м канцэнтры нашых школ патрэбна ўжываць. Гэта спрыяе развіццю вуснай мовы вучняў і прывучае іх да самастойнай работы над некалькімі крыніцамі.

Адным з момантаў, спрыяючым культурнасці мовы студэнтаў, з'яў-

ляецца бібліятэка. Бібліятэчная работа дапамагае агульнай барацьбе навучальнай установы за культуру мовы. Пагэтаму мы практыкуем вывешванне рэкамендацыйных спісаў навейшай літаратуры, а таксама літаратуры класікаў, вывешванне друкаваных рэцэнзій у бібліяграфічных часопісах і газетах на навейшыя творы, складанне рэцэнзій самімі студэнтамі. Рэцэнзенцкая работа студэнтаў прыносіць надзвычай вялікую карысць студэнтам у аўладанні культурай мовы. Гэту работу мы галоўным чынам праводзім праз літгурток.

Зараз тэхнікум праводзіць даволі цікавую работу—паход за аўладанне літаратурным мінімумам. У літаратурны мінімум для студэнтаў уваходзяць тыя творы, якія не знайшлі свайго адлюстравання ў праграмах. У літмінімум у прыватнасці ўвайшлі такія творы, як «Фауст», «Шагреневая кожа», «Большой конвеер», «Человек меняет кожу» і цэлы рад іншых.

Зусім зразумела, што паход за аўладанне лепшымі класічнымі творамі сусветнай літаратуры і літаратуры народаў СССР спрыяе агульнаму ўзняццю культурнасці студэнтаў, а тым самым і ўзняццю культуры мовы.

Такім чынам барацьба за культуру мовы намі ўздымаецца надзвычай высока. Мы ў гэтым напрамку толькі намацваем шляхі ўздыму культуры мовы нашых студэнтаў, але гэты грунт пад намі, на мой погляд, надзвычай цвёрды, а гэта ўпэўнівае нас, што мы на верным шляху і ў гэтым напрамку даб'емся значных поспехаў.

---

# Рэцэнзіі на дзіцячую ваенную літаратуру

*Баб'юк*—„**Каробчатыя паветраныя змеі**".

**Пераклад з рускага выдання.**

**Выдавецтва Беларускай ваеннай акругі. (Бібліятэка юнага прыхільніка ТСАвіяхіма) 1934 г., 37 стар., цана 50 кап., 3 000 экз.**

*А. Н. Баскакаў*—„**Лётаючая мадэль самалёта**".

**Пераклад з рускага выдання.**

**Выдавецтва Беларускай ваеннай акругі. (Бібліятэка юнага прыхільніка ТСАвіяхіма) 1934 г., 34 стар., цана 30 кап., 3 000 экз.**

*Н. Бабаеў*—„**Як пабудаваць манагальф'ер**".

**Пераклад з рускага выдання.**

**Выдавецтва Беларускай ваеннай акругі. (Бібліятэка юнага прыхільніка ТСАвіяхіма.) 1934 г., 23 стар., цана 20 кап., 3 000 экз.**

Супярэчнасці паміж імперыялістычнымі групамі дзяржаў дасягнулі такой напружанасці, што яны немінуча павінны развязацца ў новай бойні. Генеральныя штабы буржуазных армій распрацоўваюць і ўзгадняюць планы новай імперыялістычнай вайны і перш за ўсё контррэволюцыйнай вайны супроць СССР.

Уся гэтая абстаноўка ставіць ва ўвесь рост перад совецкай грамадскасцю задачу самага шырокага распаўсюджвання ваенных ведаў сярод працоўных мас і асабліва сярод моладзі, мабілізацыі іх увагі і энергіі на ўзмацненне абароназдольнасці нашай соцыялістычнай радзімы.

У галіне абароназдольнасці нашага Саюза паветраны флот адыгрывае велізарнейшую ролю. Не меншую ролю ён адыгрывае і ў нашай народнай гаспадарцы. Толькі ў нас, у краіне дыктатуры пролетарыята, авіяцыя можа, як нідзе ў капіталістычным свеце, адказваць інтарэсам працоўных мас.

У сувязі з ростам авіяцыйнага будаўніцтва нам патрэбны сотні тысяч авіякадраў. Гэтай вялікай і адказнай справай павінна зацікавіцца літаральна ўся краіна, усе тры пакаленні. Грандыёзнейшыя задачы другой пяцігодкі патрабуюць многа лётнікаў, канструктараў, тэхнікаў, інжынераў і многа іншых авіяспецыялістаў. За вырашэнне гэтай задачы павінен узяцца многамільённы ТСАвіяхім, нашы заводы, фабрыкі, соўгасы, калгасы, школы, клубы і іншыя ўстановы. Ва ўсіх гэтых нізавых звеннях і павінны расці нашы будучыя лётнікі, авіяінжынеры.

Лепшай формай знаёмства са справай авіяцыі і будуць ваенныя гульні, работа ў гуртках планерыстаў, авіямадэлістаў, парашутыстаў, гуртках па вывучэнню дырыжаблебудаўніцтва і т. д.

Усё гэта ў прасцейшай форме і ставяць перад сабой разглядаемыя намі брашуры.

* * *

Мэта брашуры Баб'юка—«Каробчатыя паветраныя змеі»—навучыць юнага прыхільніка ТСАвіяхіма, піонера, моладзь самастойна будаваць і пускаць паветраныя змеі. Пусканне змеяў мае тры мэты: 1) паступова выхаваць зачаткі «лётнага чуцця», даць першыя і прасцейшыя паняцці ў галіне аэрадынамікі; 2) пусканне змеяў з'яўляецца сродкам для агітацыі і прапаганды лётнай справы, паказам, як ад змейкавага спорта можна перайсці да падрыхтоўкі паветраных кадраў і 3) практычнае прымяненне змеяў для ваенізаваных гульняў, скарыстанне леера змея ў якасці антэны для радыёпрыёмніка і т. д.

У пачатку брашуры аўтар падрабязна пералічвае ўсе тыя матэрыялы і інструменты, якія патрабуюцца для пабудовы змея. Разам з пералікам, аўтар дае і падрабязнае апісанне іх.

Больш падрабязна апісан **паветраны каробчаты змей** канструкцыі **Л. Харправа.** Далей даецца кароткае апісанне рамбічнага змея сістэмы **Потэра,** канструкцыі **Коніна,** паветранага змея **«Мікст»** канструкцыі **Ленуар,** падан прыём пуску змеяў. Аўтар указаў некалькі сістэм змеяў, але-ж ён нічога не сказаў, якія дадатныя і адмоўныя бакі кожнай з гэтых сістэм.

* * *

Авіямадэльная работа заняла ў нас даволі віднае месца. Але-ж яна па сваіх размерах яшчэ не адпавядае тым запатрабаванням, якія вымагаюцца на сёнешні дзень ад совецкай авіяцыі. Як пабудаваць схематычную лётаючую мадэль і паказвае брашура **Баскакава—«Лётаючая мадэль самалёта».**

Аўтар проста расказвае, як кожнаму маладому вучню, піонеру можна пабудаваць прасцейшы від мадэлі самалёта, правілы рэгулявання і запуска мадэлі. У канцы падана некалькі парад пачынаючым авіямадэлістам.

Брашура прызначаецца для маладога чытача, незнаёмага з авіяцыйнай справай, а між тым у ёй сустракаюцца паасобныя словы як: лекал, ланжэрон, нервюр і інш. зусім незнаёмыя для юнага авіямадэліста. Такім словам патрэбна было-б даць паясненні ў форме заўваг.

* * *

**Брашура Н. Бабаева—«Як пабудаваць мангальф'ер»** знаёміць з асноўнымі паняццямі пабудовы дырыжабляў. Не гледзячы на ўсе свае дадатныя бакі, самалёты маюць многа недахопаў: яны могуць трымацца ў паветры некалькі гадзін, падымаюць параўнальна мала грузаў і інш. Вось чаму на вялікія адлегласці, якія вымяраюцца ў нас дзесяткамі тысяч кілометраў, пры перавозцы значнай колькасці карысных грузаў, выгадней прымяняць дырыжаблі.

Справа дырыжаблебудаўніцтва з'яўляецца ў нас новай справай. Недахоп кадраў тут адчуваецца куды вастрэй, чым у іншых галінах авіяцыі. Брашура Бабаева разглядае пытанне пабудовы мадэлі паветранага шара-мангальф'ера. Абгрунтаваўшы тэарэтычна прынцып лётання дырыжабляў, аўтар дае падрабязнае апісанне мадэлі паветранага шара, яго пуску і тых рэзультатаў, якія дае пабудова і пуск мангальф'ераў у сэнсе аўладання тэхнікай і прапаганды лётнай справы.

* * *

У брашуры даволі рысункаў і чарцяжоў. У большасці яны адпавядаюць мэце, але-ж, калі ўзяць старонкі 21, 22, 23 брашуры Баб'юка, то мы там убачым награмаджэнне па 10 фігур, што з прычыны іх нячоткасці зніжае якасць і карысць. Тут патрэбна было-б не пашкадаваць лішняй старонкі.

Брашуры прызначаюцца для маладога чытача. Адсюль, зразумела, яны павінны быць напісаны лёгкай захапляючай мовай. На справе-ж брашуры як Баб'юка, так і Баскакава напісаны сухой, канспектыўнай мовай. З боку мовы гэта хутчэй дапаможнік для кіраўніка, а не для маладога авіямадэліста.

Мастацкае афармленне вокладак брашур нікуды не варта. Наш малады чытач патрабуе высокай мастацкасці ад такой рэчы, як кніга. Самы знадворны выгляд кнігі павінен вабіць чытача.

Не гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, прымаючы пад увагу адсутнасць кніг па лётнай справе для маладога чытача, брашуры ўсё-ж такі дадуць вялікую карысць у прапагандзе лётнай справы сярод нашай моладзі.

*Г. Вінаградаў.*

---

Рэдкалегія: **Баршчэўская, Башкевіч, Дардак, Лоэбень (адказны рэдактар), Лешчынскі, Панкевіч, Фрэйдман (нам. адк. рэдактара).**

Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Урада, Наркомасветы, пакой № 556, тэл. 24-591.

## ЗМЕСТ



---


Рэдактар *Лозбень*

Тэхрэдактар *Абрамава*
Карэктар *Смольская*

Здава ў друкарню 15-III—35 г. Падпісана да друку 15|IV-35 г. Аб'ём $2^1/_4$ друкав. аркушоў. Папера $72 \times 105^1/_{16}$
Знакаў у друк. арк. 64.032. Тыраж 8.185 экз. Заказ друкарні 234. Уп. Галоўлітбела № Б 1704.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

